# ДАЙ БОЖА ЗНАЦЬ, З КІМ ВЕК ВЕКАВАЦЬ

## БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ВАРАЖБА



# ДАЙ БОЖА ЗНАЦЬ, З КІМ ВЕК ВЕКАВАЦЬ



## БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ВАРАЖБА

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1993

ББК 82.3 Бел-6
Д14
УДК 882.6

Складальнік
У. А. Васілевіч

Дай Божа знаць, з кім век векаваць: Беларуская
Д14 народная варажба / Склад. У. А. Васілевіч. — Мн.:
Навука і тэхніка, 1993. — 63 с.

ISBN 5-343-01457-7.

У зборніку ўпершыню сабрана ва ўсёй сваёй мнагастайнасці і варыянтах варажба, якая здавён праводзілася на Беларусі. Большасць варожбаў прымеркавана была да каляндарных свят — Каляд, Купалля і інш. У асноўным яны прысвячаліся каханню. Але сустракаліся і такія, дзе чалавек хацеў даведацца пра поспехі ў будучым ураджаі, працягласць свайго жыцця і г. д.

Разлічаны на шырокае кола чытачоў.

Д $\frac{4702120105-100}{М316(03)-93}$ без аб'явы ББК 82.3 Бел-6

ISBN 5-343-01457-7 

# АД СКЛАДАЛЬНІКА

Спакуслівая рэч — варажба! Каму з маладых не хацелася б пранікнуць у будучыню, даведацца пра свайго суджанага, сямейны лёс? Сабранае пад гэтай вокладкай не трэба ўспрымаць як сродкі чорнай, белай ці яшчэ якой там магіі альбо як праверанып рэцэпты прываблівання жаданай асобы. Ніякага чарадзейства Вы тут не знойдзеце. Кніжка пазнаёміць Вас з разнастайнымі варыянтамі традыцыйнай варажбы беларусаў, якая з'яўляецца нібыта яшчэ адным паэтычным штрыхом да духоўнага жыцця нашых дзядоў і прадзедаў. Але ў тым і бяда, што не ўсімі варажба ўспрымалася як частачка н а р о д н а й к у л ь т у р ы. Калі царква ваявала з варажбою (як і з іншымі абрадавымі дзеяннямі), то таму, што бачыла ў ёй толькі забабоннасць, якою засмечваўся розум вернікаў, толькі рудымент недапушчальнага язычніцтва і сувязь з нячыстай сілаю. Як ні дзіўна, але і ў зусім нядаўнія часы на тую ж варажбу і на тыя ж традыцыйныя святы — спрадвечна народныя, а з імі заадно і царкоўныя — накладвалася забарона ўжо з боку афіцыйных уладаў: якога-небудзь участковага міліцыянера ці старшыні калгаса. А ш т о і я к трэба святкаваць, каб не выглядаць адсталымі і ісці ў нагу з эпохай, пра гэта клапаціліся прававерныя аўтары інструкцый па правядзенню сучасных свят. Але нішто штучна прыдуманае не жыве без прымусу, як нішто асвечанае векавымі традыцыямі не гіне назусім. І зноў вяртаюцца да нас, перанасычаных, перакормленых казённымі ўрачыстасцямі, старыя — каму напаўзабытыя, а каму і зусім невядомыя — абрады. І спрадвечныя, і больш познія, канфесійныя. Хацелася б, аднак, каб у гэтым агульным адраджэнні нацыянальнай духоўнасці афіцыйная царква і мясцовыя ўлады паставіліся з разуменнем да народных святкаванняў, каб адчулі ў іх, паўторым, выражэнне н а р о д н а й к у л ь т у р ы, а не адступніцтва ад веры і парушэнне парадку.

Калі ж вярнуцца да тэмы самой варажбы, то варта нагадаць, што яна, узнікаючы як падчас значных свят, так і ў будзённым жыцці чалавека, з'яўлясцца неад'емнай часткай народных уяўленняў, традыцыйнай абраднасці. Бачыць у ёй толькі прымітыўнасць мыслення — гэта значыць не адчуваць рамантычных парываў, лірычных летуценняў, уласцівых маладосці. Пагадзіцеся, дапытванне праз варажбу пра сваю не дабраную яшчэ пáру гэтакае ж натуральнае, як бясконцыя пытанні дзіцяці малога ўзросту. Абвінавачваць варажбу ў адсталасці, забабоннасці — значыць не разумець традыцыйную народную культуру з гульнямі, забавамі, гумарам. Ледзь не кожная паасобная варажба ўяўляе сабою разыграны спектакль, дзе ўдзельнікі з'яўляюцца адначасова і яго гледачамі, што нецярпліва чакаюць развязкі дзеяння: а як павернецца сюжэт, які ў выніку атрымаецца фінал? Паплыве вянок па вадзе — пойдзе дзяўчына замуж, патоне — памрэ; выльецца з воску вяночак ці цэркаўка — пойдзе замуж, а атрымаецца кавалак накшталт труны — памрэ; выцягне дзяўчына з-пад шапкі пярсцёнак — выйдзе замуж, знойдзе там шчопаць пяску — памрэ. Расцэньваць варажбу як цемрашальства — гэта не ведаць той спрадвечнай, часам агульначалавечай сімволікі, якая ляжала ў аснове кожнай варажбы. Разгадаўшы сакрэты сімвалаў, мы бачым, як таямнічыя словы і дзеянні варажбы трацяць сваю чарадзейнасць, магічнасць.

Сапраўды, магічнае, чарадзейскае значэнне надавалася ўсяму, што акружала варажбу. Напрыклад, часу, тэрміну выканання (Каляды, Купалле — дні зімовага і летняга сонцастаяння, маладзік, поўнач); месцу правядзення (гарышча хаты, лазня, калодзеж, перакрыжаванне дарог); суправаджальным прадметам (агонь — сімвал ачышчэння, вада — сімвал плоднасці, урадлівасці, насенне, хлеб і соль — сімвалы дабрабыту). Выкарыстоўваючы розныя прадметы, рэчы, імкнуліся дамагчыся іх парнай колькасці ў выніку варажбы (калы ў плоце, паленцы дроў, зярняты), што нібыта мусіла сведчыць пра хуткае сямейнае (у пáры) жыццё. Прадметы і рэчы маглі, як уяўлялася, быць у варажбе і сродкамі прыцягнення пажаданай асобы (косткі кажана, галінка, на якой сядзеў салавей — пяюн кахання, пчаліная матка, вакол якой раяцца пчолы, і г. д.). Любоўны прыварот, паводле народных уяўленняў, мог ажыццяўляцца з дапамагаю магічнага кола, якое павінна было спыніць сыход,

знікненне за сімвалічныя межы таго, каго кахаеш (абкручвалі вакол вёскі нітку, абносілі свечку вакол задуманага чалавека, сала вакол печы, замкнуты замок вакол студні). Гэтак жа сімвалічна мог устанаўлівацца напрамак, адкуль чакаць сватоў, — тут падказчыкамі былі альбо насок перакінутага за плот валёнка, ці пачуты аднекуль голас, ці нахіленая ўбок лыжка ў куцці. Высветліць хуткасць выхаду замуж усіх сяброўак давяралі сабаку (чые аладкі з'есць па чарзе); прадвызначыць характар будучага мужа — пеўню (да якога сімвалічнага прадмета ён падыдзе, такі і муж трапіцца) альбо самой дзяўчыне. Ускладваліся спадзяванні і на сон: адпаведнымі дзеяннямі забяспечваліся ўмовы, пры якіх абавязкова сасніцца той, пра каго марыш. Была вера і ў сэнс выпадкова пачутага слова падчас варажбы.

Сезонныя варожбы адпавядалі характару пораў года і выкарыстоўвалі пэўны стан прыроды — зімою, вясною, летам, восенню. Неаднойчы ў часе фальклорных экспедыцый у гутарцы са старымі людзьмі даводзілася бачыць, з якою вясёлаю ўсмешкаю згадваліся імі гарэзлівыя дні іх маладосці і асабліва далёкія, але не забытыя варожбы: ці калі сабака накідваўся на прынесеныя ўсімі дзеўкамі блінцы, ці калі перакідваліся валёнкі цераз вароты, ці калі дзяўчына ішла ў хлеў, каб у цемры ўхапіць самца ці самку, ці калі апоўначы яна гукала і прыслухоўвалася да голасу, які пачуецца ў адказ... А хлопцы заўсёды падпільноўвалі гэтыя моманты і кралі дзявочы абутак, пужалі дзяўчат дзікім крыкам, нечаканым з'яўленнем і, разбураючы сур'ёзнасць іх намераў, усё ператваралі ў смех, жарты. Паспрабуйце ўявіць святкаванне Шчодрыка без тых валёнкаў, кінутых цераз плот, ці Купалля без тых вянкоў, пушчаных на ваду, і шмат яшчэ без чаго. Або ўявіце чалавека, які ніколі не ўглядаўся ў маладзік, спадзеючыся, што збудуцца яго мары; які ніколі не абрываў пялёсткаў рамонка ("любіць — не любіць?"); які ніколі не лічыў зязюльчына «ку–ку»... Адкіньце ўсё гэтае паэтычнае яднанне чалавека з прыродай (расцэньваемае часам як глупства, забабоны) і пераканаецеся, як збяднее свет нашых пачуццяў.

На вобразнасці, асацыятыўнасці мыслення былі пабудаваны самыя разнастайныя варожбы нашых продкаў. Яны былі іх уцехаю і забаваю, бо заўсёды неслі чалавеку надзею.

Дык ці варта нам сарамліва або пагардліва адкідаць іх? Пагартайце старонкі гэтай кніжкі, паглядзіце, чым жыў наш народ, як шукаў адказы на свае пытанні, як дамагаўся ажыццяўлення сваіх мараў. А можа, і самі захочаце праверыць старую, бяскрыўдную варажбу на сабе? Ну дык: «Дай Божа знаць, з кім век векаваць...»

*
* *

Прыведзеныя ў гэтай кніжачцы варожбы са зборнікаў Сержпутоўскага, Федароўскага, Шлюбскага, Пяткевіча і інш., а таксама запісаныя ў часе экспедыцый падаюцца так, як яны былі пачуты непасрэдна з вуснаў народа, гэта значыць з асаблівасцямі мясцовага вымаўлення (некаторыя матэрыялы нават расшыфроўваліся з магнітафоннай стужкі). Астатнія запісы, што друкаваліся ў свой час на рускай ці польскай мовах, перакладзены складальнікам на беларускую мову.

*Уладзімір Васілевіч*

# НА КАЛЯДЫ

## ПАД ВОКНАМІ

Падыходзяць пад акно суседзяў і слухаюць, што ў гэты час будзе сказана; з пачутых слоў выводзяць заключэнне наконт свайго замужжа ці жаніцьбы.

*Булгаковский, с. 183*

Дзяўчаты... бегаюць пад суседнія хаты і падслухоўваюць пад вокнамі. Незвычайная радасць ахоплівае іх, калі падслухаюць словы, з якімі гоняць каго-небудзь з хаты, напрыклад: «Чаго заседзеўся? Даволі, брат! Ідзі!» і г. д. Адчайная журба, калі ў хаце запрашаюць кагосьці пасядзець, застацца, калі кажуць: «Яшчэ рана! Паспееш!» і г. д. Першы выпадак прадказвае абавязковае замужжа на працягу года, апошні — сядзенне ў дзеўках. Але жахлівей за ўсё, калі пачуюцца словы «святар», «свечкі», «дошкі» і г. д., таму што гэта прадказвае блізкую смерць той, якая падслухоўвае, ці яе суджанаму.

*Киркор, с. 159*

Бяруць каноплі ці проса, бягуць пад чыё-небудзь акно, там яго высыпаюць і прыслухоўваюцца да размоў у хаце. Калі пачуюць словы: «Ідзі, што заседзеўся, чаму не йдзеш?» і г. д., да каго б яны ні адносіліся, то дзяўчына, падслухоўваючы, верыць, што яна ў наступным годзе выйдзе замуж; калі ж пачуе словы: «Садзіся, яшчэ рана, пачакай троха, застаньса» і г. д., то гэта значыць, што дзяўчына замуж у гэтым годзе не выйдзе. Калі ж гаворка ідзе пра святара, свечку ці пра дошкі, то гэта азначае, што дзяўчына, якая падслухоўвае, ці той, хто намераны сватацца да яе ў гэтым годзе, памруць.

*Шейн, I, с. 41*

Найбольш заўзятыя нявесты падыходзяць пад вокны падслухоўваць, што спачатку скажуць у хаце: «Бывай здароў» ці «Сядзь, пасядзі». Калі першае, дык прыкмета добрая: давядзецца пакінуць бацьку, родную хату і ісці

замуж; калі ж звыш спадзяванняў пачуецца, як нецярплівая маці ў хаце раптам прыкрыкне на свайго неўгамоннага жэўжыка: «Ды сядзь, каб ты макам сеў», то тая, што падслухоўвала, як абвараная, уцякае ад акна: давядзецца, маўляў, сядзець у дзеўках.

*Берман. Календарь, с. 19*

Удзельнікі варажбы падслухоўваюць пад вокнамі і, улоўліваючы першыя словы таго, хто гаворыць у хаце, вызначаюць па іх свой лёс. Так, словы «пайшоў», «паехаў», «паляцеў», «гара», «лес», «вада» лічацца дабратворнымі для ўдзельнікаў варажбы, у той час як «сеў», «лёг», «ніз», «балота» — нядобрымі. Гэтак варожачы пра замужжа, дзяўчаты абавязкова павінны ездзіць на качарзе, чаго не робяць мужчыны–жаніхі.

*Никифоровский, с. 52*

На першую куццю пасля вячэры хлопцы падслухоўваюць пад вокнамі, што там гамоняць, і па той гаворцы мяркуюць, ці кахаюць іх дзеўкі ці не. Часамі таксама робяць і дзеўкі, але гэта толькі марцовыя дзеўкі ці тыя, каторыя ніяк не могуць зразумець сваіх каханкаў, ці шчыра яны кахаюць, ці толькі кпяць.

*Сержпутоўскі, с. 112*

Бярэш блін і ідзеш слухаць пад чыю–небудзь хату. Калі пачуеш: «Хлеба многа» — пойдзеш за багатага. Калі пачуеш: «Мяшок перакінь» — за беднага. (Зап. у Балоцінскім р–не Новасібірскай вобл. ад беларусаў–перасяленцаў з–пад Рагачова).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 210*

На Шчадруху, каб дзяўчаты не сядзелі ў дзеўках, хлопцы вырывалі лаўкі на вуліцах ля іх хат. (Зап. У. А. Васілевіч у Глускім р–не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 92, спр. 261*

## ПА САБАЧАМУ БРЭХУ, ПА ГОЛАСУ, ПА РЭХУ

На першы дзень Каляд раніцай дзяўчаты слухаюць брэх сабакі і сцвярджаюць, што, з якога боку пачуюць, там будуць і замужам.

*Мухлинский, с. 272*

Напярэдадні Раства раніцой, калі чысцяць хату і выносяць попел з печы, прымушаюць гэта рабіць малых дзяцей. У якім баку пры гэтым забрэшуць сабакі, адтуль будзе жаніх для дачкі і нявеста для сына.

*Романов, 8, с. 306*

Выметуць хату і вынесуць смецце на крыжавую дарогу і слухаюць, дзе сабакі забрэшуць.

*Шейн. БНП, с. 452*

Пасля вячэры дзяўчаты замятаюць хату, смецце выносяць у якой-небудзь пасудзіне ў сад ці на двор і садзяцца на пасудзіну, у якой знаходзіцца смецце, у чаканні сабачага брэху: у якім баку пачуюць брэх, з таго боку чакаюць жаніха.

*Булгаковский, с. 183*

Дзяўчаты... бяруць першы спечаны блін, вымятаюць хату, смецце кладуць на засланку і нясуць на сметнік, дзе становяцца на засланку са смеццем, ядуць блін і ў гэты час прыслухоўваюцца да брэху сабак: з якога боку ён чуцён, з таго і прыедуць жаніхі. Чым ясней чуваць сабачы брэх, тым бліжэй дзяўчына будзе жыць замужам, а чым глушэй чуваць брэх, тым далей. Хрыплы брэх сабакі азначае старога, а звонкі і тонкі — маладога.

*Шейн, I, с. 40—41*

Першы блін, які маці спячэць на багату Каляду на Васілля (г. зн. перад Новым годам), дачка возьме, пойдзе на крыжавую дарогу, там яго з'есць і слухае: дзе сабакі забрэшуць — у тую старану выйсці замуж.

*Шейн. БНП, с. 451*

Дзяўчаты пасля вячэры выбягаюць на двор, становяцца на сметніку й слухаюць: дзе забрэша сабака — у той бок яны пойдуць замуж, а калі сабакі саўсім не забрэшуць, то тая дзеўчына застанецца ў дзеўках ці пойдзе хіба за ўдаўца.

*Сержпутоўскі, с. 111*

Дзяўчаты, захапіўшы акраец хлеба, выбягаюць на «смалішча» (месца, дзе смалілі кабана) і, ядучы хлеб, слухаюць: у якім баку пачуецца гук — гамонка, сабачы брэх і г. д., — туды ёй выходзіць замуж.

*Богданович, с. 87*

Устаючы з-за стала, дзяўчына бярэ ў зубы костку, адпраўляецца верхам на памяле за аколіцу і становіцца на больш свежае папялішча, дзе смалілі к Раству свінню: адкуль яна пачуе сабачы брэх — з таго боку будзе яе суджаны.

*Никифоровский, с. 53*

Дзеўка бярэ ў зубы тую косць, што варылася ў куцці, нясе яе на тое мейсца, дзе смалілі свіней к Калядам, становіцца на том вогнішчы да й слухае: у яком боцы забрэшуць сабакі ці запае пявун, то ў той бок пойдзе замуж. Калі ж закрычыць сава, то будзе вельмі вялікае ліха, бо яна родзіць байстручка.

*Сержпутоўскі, с. 113*

Выходзяць на крыжавую дарогу нс ў па́ру (1, 3, 5 чалавек). Абводзяць вакол сябе круг. Адна — у крузе, астатнія — за кругам. Гавораць: «Суджаны-раджаны, падай голас!» Стаяць і чакаюць, дзе што будзе чуваць. У якім баку загудзіць — туды паедзеш, заплача — не ў той час родзіш дзіцё, заіграе — будзе ў цябе ў тым баку вяселле, забрэшуць сабакі — выйдзеш замуж. (Зап. у Докшыцкім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 89, спр. 240, сш. 2*

На стары Новы год на ростынькі пойдзем у 12 часоў і крычым: «Доля, доля, адгукнецца!» Каму адгукнецца, што пяюць, то гэта добра — вясёлае жыццё будзе; каму — што нешта паехала, то з'едзеш замуж; каму — што недзе заплача, то ліхая жытка будзе. А адной нашай дзеўцы нехта, падслухаўшы, крыкнуў: «Твая доля ўсралася!» Дык ніхто замуж яе не ўзяў, яна сцёрлася і памерла. (Зап. У. А. Васілевіч у Свабодненскім р-не Амурскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў).

Пад стары Новы год хадзілі над рэчкаю. Як каму што пачуецца. Каму — «та-та-та-та». А мне падалося, што нехта паехаў. Пакойнай Арыне — цішыня. Так яна і памёрла адзінокай. (Зап. У. А. Васілевіч у Свабодненскім р-не Амурскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў).

Пад Каляды: на полі, дзе было жыта, трэба раскапаць зямлю, паставіць свечку, а па баках пакласці два камяні, на якія паставіць гліняны гаршчок і слухаць. Што пачуеш, тое цябе і чакае. (Зап. у Смаргонскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 248*

Як толькі ўпадзе на падлогу «затыкальнік» пры заканчэнні кроснаў, дзяўчына, якая ткала, садзіцца на яго вярхом, аб'язджае вакол става тройчы і, выбраўшыся на вуліцу, прыслухоўваецца да першага сабачага брэху: з якога боку пачуецца брэх— у той бок давядзецца выйсці замуж.

*Никифоровский, с. 54*

Замест «затыкальніка» дзяўчына садзіцца вярхом на заднюю калодку і прараблае тое самае. Калі на вуліцы стрэўся хто-небудзь з кошкаю — чакаецца багатае замужжа, парожні ці «стачынка» (скацінка) — беднае; стрэча з цяжарнай жывёлай лічыцца заўсёды дабратворнаю.

*Никифоровский, с. 54*

Спецыяльна зробленай лапаткай дзяўчаты мяшаюць наваготнюю куццю. Потым, выйшаўшы на вуліцу, ачышчаюць лапатку ад прыліплых зярнят. Калі ў гэты час забрэша сабака — будуць да дзяўчыны сваты, і абавязкова з таго боку, адкуль забрахаў сабака.

*Романов, 8, с. 120—121*

Калі на Новы год варыцца кісель, дзяўчаты — удзельніцы варажбы — абавязкова мяшаюць яго ў печы «кісялёўкай», з якою хуценька выбягаюць на двор і крычаць: «Гу-гу!» Месца водгаласу пакажа, з якога боку будзе жаніх.

*Никифоровский, с. 52*

Пасля вячэры хлопцы й дзеўкі бягуць на загумечча й там голасна крычаць: «Аў-аў!» Адкуль будзе адказваць пошчак — у том боцы жыве суджаная або суджаны.

*Сержпутоўскі, с. 113*

Дзяўчаты выходзяць у сад і крычаць тут; у якім баку адгукнецца рэха — з таго боку чакаць суджанага.

*Булгаковский, с. 183*

Жадаючы даведацца, з якога боку будзе нявеста, хлопец уласнаручна пячэ блін, пакрывае ім галаву і адпраўляецца на перакрыжаванне: у якім баку спачатку забрэшуць сабакі — адтуль будзе нявеста. Калі варажба задавальняе, хлопец кідае блін у бок сабачага брэху, у

адваротным выпадку ён ці кідае ў супрацьлеглы бок, ці нясе дадому.

*Никифоровский, с. 51*

Пасля вячэры хлопцы бягуць на ростанцы й слухаюць: у яком баку забрэшуць сабакі, та стуль ім трапіцца жонка, бо гэта так суджана.

*Сержпутоўскі, с. 111*

Варажылі ў суботу перад Раждзяством. Сабяруцца дзеўкі, а хлопцы пільнуюць. Каб дзеўкі замуж не ішлі, яны цягалі мяліцу вакол сяла ці абкручвалі сяло суравой ніткай. (Зап. У. А. Васілевіч у Шумілінскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 89, спр. 240, сш. 1, № 68*

На Каляды дзеўкі абносяць шматок старога сала ўкруг вёскі, каб прыманіць хлапцоў. (Зап. у Смаргонскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 248*

## У ЯКІ БОК ЗАМУЖ ІСЦІ?

Пры варажбе дзяўчына падвешвае ключ да ніткі і, апускаючы ў калодзеж, тузае за нітку, з-за чаго ключ хістаецца з боку ў бок. У які бок адхіліцца ключ у час дакранання да вады — з таго боку будзе жаніх.

*Никифоровский, с. 52*

У які бок пасля адпускання рукі нахіліцца і ўпадзе пастаўлены на зямлі кій ці кол — адтуль да цікаўных дзевак прыедуць сваты.

*Federowski, s. 315*

На Шчадраца ґэтак во варажылі: дзеўчына брала насілкі для сена (доўгую такую жордку), ставіла яе прама і аббягала — значыцца ўжо, куды тая паляціць — адтуль і жаніх яе будзе. (Зап. У. А. Васілевіч у Капыльскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 88, спр. 239-а, сш. 2, л. 11*

Перакідвалі дровы цераз хату. У які бок паляціць палена — у той бок і замуж пойдзеш. (Зап. у Докшыцкім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 89, спр. 240, с. 2*

Выйшаўшы на двор, скідваюць з нагі чаравік і з усіх сіл кідаюць яго на вуліцу: у які бок наском ляжа чаравік — адтуль і будуць сваты; калі чаравік упадзе наском да той, што кідала, значыць, сватоў да яе ў гэтым годзе не будзе.

*Романов, 8, с. 121*

Кідалі праз вароты пімы. Куды насок пакажа — адтуль і жаніх будзе. (Зап. У. А. Васілевіч у Кыштоўскім р-не Новасібірскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў з Віцебшчыны).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 36-г*

Бралі валёнак і кідалі цераз страху, каб ён там завіс. І куды насок пакажа — з таго боку і суджанага трэба чакаць. (Зап. У. А. Васілевіч у Шумілінскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 89, спр. 240, сш. 1, № 2*

Напярэдадні Новага года дзяўчаты карагодам збіраюцца ў адзін дзень і гавораць да поўначы. Апоўначы ідуць за сяло, кожная нясе з сабою свой абутак — лапаць з лыка ці чаравік. Тут кожная з іх кідае свой абутак у розныя бакі і глядзіць, куды ён паляціць. І вераць: калі якая-небудзь з дзяўчат на наступны дзень знойдзе свой лапаць ці чаравік, то тая яшчэ застанецца ў дзеўках на гэты год, а якая не знойдзе — дык тую ўжо не знойдзе дома маці, г. зн. яе возьмуць замуж.

*Эгилевский, с. 44*

## ЦОТ ЦІ ЛІШКА?

Падымаецца дзеўка несці бярэмя дроў, скіне іх і лічыць: калі акажацца паленцаў цотны лік — да пары, то быць ёй у пары, пад вянцом, а не — заставацца ў адзіноце.

*Берман. Календарь, с. 18*

Дзяўчына выходзіць на свой двор, набірае тут трэсак у хвартух і бяжыць у хату. Тут лічыць трэскі: цотны лік іх — хутка быць ёй у па́ры, г. зн. хутка пойдзе замуж, няцотны лік — не хутка пойдзе замуж ці вечнае дзявоцтва.

*Булгаковский, с. 183*

Дровы кралі. Палічыш: калі ў па́ру — замуж выйдзеш. (Зап. У. А. Васілевіч у Кыштоўскім р-не Новасібірскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў з Віцебшчыны).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 36-а*

Схапіўшы бярэмя дроў, дзяўчына нясе іх у хату і лічыць: калі захоплены парны лік паленцаў — дзяўчына выйдзе замуж за халастога, няпарны — за ўдаўца.

*Никифоровский, с. 51*

Хлопцы і дзяўчаты ходзяць да агароджы і абхопліваюць плот рукамі: калі ў абхваце атрымаецца парны лік — хутка вяселле, няпарны — не хутка.

*Булгаковский, с. 183*

## САМЕЦ ЦІ САМКА?

Варожаць на Шчадраца: дзяўчына пячэ блін і выходзіць на вуліцу. Калі першую сустракае жанчыну, то замуж у гэтым годзе не выйдзе, а калі мужчыну —выйдзе, і імя мужа будзе пачынацца на тую ж літару, што і ў стрэчанага мужчыны. (Зап. у Капыльскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 88, спр. 239-а, сш. 5, л. 2*

Падхапіўшы па бліну, дзяўчаты ўсёй вёскі спяшаюць да «лункі» і чакаюць тут таго, хто першы прыйдзе па ваду. Калі ім аказаўся мужчына, — што абяцае дабрабыт і ім асабіста і сям'і іх, — то дзяўчаты аддаюць яму прынесеныя бліны; калі ж прыйдзе па ваду жанчына — дзяўчаты навыперадкі бягуць да другой «лункі» і тут зноў чакаюць, хто прыйдзе.

*Никифоровский, с. 229*

Дзяўчаты... адпраўляюцца ў хлеў: калі па дарозе стрэнуцца з быком, ім, значыць, у наступным годзе, і ніяк не далей восені, давядзецца выйсці замуж; сустрэча з каровай не прадказвае нічога суцяшальнага.

*Крачковский, с. 165*

У Новы год вечарам дзяўчаты пякуць вялікі блін і з ім выпраўляюцца да хлява, дзе кожная з дзяўчат, заплюшчыўшы вочы, раздае па кавалку бліна жывёле; калі дасць блін валу, то спадзяюцца, што выйдзе замуж на той год, калі ж карове, то не выйдзе.

*Шпилевский, 1854, № 6, с. 65*

У дзень Новага года пякуць вялікі блін (дзяўчаты). Спёкшы, дзяўчаты карагодам ідуць у хлеў, куды заганяюць рагатую жывёлу. Кожная з дзяўчат адламвае частку бліна і дае жывёле; усё гэта робіцца ў цемры. Потым заходзіць другая, з агнём, і разглядаюць, якога полу жывёла: бык ці карова? І вераць, калі дзяўчына дае частку бліна быку, то выйдзе замуж, а калі карове, то застанецца ў дзеўках.

*Эгилевский, с. 44—45*

На Каляды, у ноч, ідуць дзяўчаты ў абору і глядзяць, што навобмацак ім пападзецца: карова ці вол; першая прадказвае дзявоцтва, другі — замужжа.

*Wisła, 3, s. 275*

На Новы год завяжуць глаза, ідуць у стайку. Мацаюць карову. За бок памацаеш, за шэрсць — багаты будзе жаніх. Дык яна ўжо ідзе і падскоквае. За жопу (ці за рогі) — бедны. (Зап. у Балоцінскім р-не Новасібірскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў з Магілёўскай губерні).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 157*

Ходзяць у хлеў і ловяць у цемры авечак, прычым калі зловяць барана — выйдзе замуж, а калі авечку — не.

*Шейн, І, с. 41*

Перад Ражством ці Новым годам дзяўчаты пойдуць у малушку (хлеў), і каторая ўхопіць барана за яйцы — тая ўжэ замуж пойдзе. Каторая ўхопіць авечку — тая не. (Зап. У. А. Васілевіч у Кыштоўскім р-не Новасібірскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў з-пад Быхава).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 109*

Пайшлі кароў мацаць. Хто за галаву, хто за зад, а я за пуп. Адна ўхапілася за рог ды семера дзяцей нарадзіла, і ўвесь век біліся ды драліся. Як за рог — то будуць біцца, то паганая жысць. (Зап. У. А. Васілевіч у Чугуеўскім р-не Прыморскага краю ад беларусаў-перасяленцаў).

Варажылі пад Новы год... Кароў цапалі. Пойдуць — як за зад, то, ета, плахая жысць, за сярэдзіну — сярэдне будзеш жыць. А рогі — харашо. За хвост — значыць, муж будзе прахвост. (Зап. У. А. Васілевіч у р-не імя Лазо Хабараўскага краю ад беларусаў-перасяленцаў).

У стайку ідзі ў 12 часоў. Еслі за бок возьмеш жывёлу — мужык багаты будзе. За хвост — мужык хвастун, а работаць не хоча. За пысу — то грыбаты будзе, за рог — голы (бедны) будзе. (Зап. У. А. Васілевіч у Свабодненскім р–не Амурскай вобл. ад беларусаў–перасяленцаў).

Раней пад печчу былі куры. У святыя вечары выцягвалі іх адтуль і глядзелі, хто каго выцягне — пеўня ці курыцу. Калі трапіцца курыца — замуж не выйдзеш. (Зап. У. А. Васілевіч у Кыштоўскім р–не Новасібірскай вобл. ад беларусаў–перасяленцаў).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 13*

## ЦІ ХУТКА ЗАМУЖ ІСЦІ?

Кідаюць праз вароты чаравікі або лапці з ночваў: калі перакінецца па́ра, то хутка вяселле ў асобы, якая перакінула, калі толькі адзін — не скора.

*Булгаковский, с. 183*

Дзеўкі, па мясцоваму выразу, «аполаюць чаравікі», г. зн. набяруць поўныя начоўкі чаравікаў і вытрасаюць іх, як пшаніцу, ад пылу: чый першы чаравік вытрасецца — тая і спадзяецца раней выйсці замуж.

*Берман. Календарь, с. 18—19*

Паскідаўшы па адном чаравіку, дзяўчаты ім мераць ад покуці да парога: каторае першы прыйдзе на парог — тая напярод замуж пойдзе.

*Federowski, s. 314*

Дзяўчаты варожаць яшчэ наступным чынам: у дзежку кідаюць некалькі бабовых зерняў, кожнае з якіх памечана, і трасуць дзежку; чыё зерне выпадзе — тая неўзабаве выйдзе замуж.

*Jeleńska, s. 510*

Кожная па чарзе з дзевак кідае ў ночвы па адной пацерцы, старэйшая з дзяўчат патрасае іх, і каторай пацерка самая першая выпадзе з ночваў — той суджана першай браць шлюб.

*Federowski, s. 312*

Перад Вадохрышчам адзначалася трэцяя куцця, на якую дзяўчаты варажылі наступным чынам: некалькі па-

мечаных арэхаў клалі на стол у кучку і рэзка накрывалі далонню. Чый арэх выкаціцца з-пад рукі — тая выйдзе замуж.

*Jeleńska, s. 76*

Кожная дзяўчына кладзе ў адну шапку які-небудзь дробны прадмет, які ёсць пры ёй: пярсцёнак, завушніцу, напарстак і г. д. Складзенае падкідваецца ўгору, і чыя рэч падляціць вышэй — тая дзяўчына раней выйдзе замуж.

*Никифоровский, с. 51*

Калі дзеўка ў першую куццю дзе-небудзь замарудзіць і спозніцца на вячэру, калі ўжо другія [redacted] сям'і сядзяць пры стале, то яна ў том гаду не пойдзе замуж.

*Сержпутоўскі, с. 111*

У нас на Шчодруху дзяўчата пускаюць на воду лушчавіны ад гарэхаў, і каторае на дно пойдзе, то тая замуж не выйдзе.

*Federowski, s. 313*

Набіраюць вады (у міску), і тады кусочкі хлеба пускаюць. І вот як адплыве мой кусок, то я замуж выйду, а як не адплыве, то буду дзеўкай сядзець. (Зап. У. А. Васілевіч у р-не імя Лазо Хабараўскага краю ад беларусаў-перасяленцаў).

Напярэдадні Новага года (Васілле, другая куцця) дзяўчаты крадуць куццю патроху і кідаюць у міску [redacted] вадою: калі наверх выплыве — дзяўчына выйдзе замуж, калі на дно апусціцца — застанецца і далей сядзець дома.

*Jeleńska, s. 511*

На Шчодрыкі то так у нас дзеўкі робяць: зловяць як гараб'я і ўкінуць у напалену печ: калі вылеціць, то і яна вылеціць з хаты, а калі астанецца, то і нечага думаць.

*Federowski, s. 314*

Варожачы, дзяўчаты выцягваюць зубамі саломінкі з новай страхі, і чыя саломінка акажацца даўжэйшая — тая хутчэй пойдзе замуж. Калі пры гэтым саломінка будзе мець колас з зернем — тая, якая варожыць, выйдзе за багатага хлопца, без зерня — за беднага. Саломінка без коласа паказвае, што дзяўчына ці зусім не выйдзе замуж, ці выйдзе за ўдаўца.

*Никифоровский, с. 52*

Багатую куццю перад Новым годам яшчэ называюць Шчадрэц, ці Шчодры вечар. У гэты вечар дзеўкі й хлопцы гадаюць, якая ім будзе па́ра, якая іх сустрэне доля. Пасля вячэры дзеўкі зубамі выцягваюць з новае страхі саломінкі. Каму трапіцца самая даўжэйшая саломінка — той хутка будзе ў пары. Калі саломінка з коласам, то дзеўка пойдзе замуж за хлопца, а калі без коласа, то за ўдаўца. Колас з зярнятамі кажа, што суджаны будзе багаты, а пусты колас значыць суджанага галыша.

*Сержпутоўскі, с. 112*

Пры святле лучыны дзяўчына, калі варожыць, прыглядаецца да свайго ценю, выразныя абрысы якога прадказваюць замужжа ў бягучым годзе; наадварот, невыразныя абрысы ценю — супрацьлеглае.

*Никифоровский, с. 51*

Пасля вячэры дзеўкі становяцца кала сцяны процiў лучыны й прыглядаюцца на свой цень. Калі ён мае ясныя рысы — та дзеўка хутка пойдзе замуж, і яе жытка будзе добрая, а калі цень расплываецца, то гэта суліць ліхую долю.

*Сержпутоўскі, с. 111*

Дзяўчына, якая жадае апярэдзіць замужжам іншых сяброўак сваёй вёскі, павінна раней за іх прынесці вады з агульнага для гэтай вёскі вадаёма.

*Никифоровский, с. 51*

Пасля вячэры дзеўкі хуценька хапаюць вёдра і бягуць увыперадкі адна перад другою па воду; каторая дзеўка хутчэй прымчыць дамоў вады — тая хутчэй выйдзе замуж.

*Сержпутоўскі, с. 111*

Ля калодзежа збіраліся дзяўчаты, апускалі вядро ў студню і, дастаючы яго, па чарзе хапаліся рукамі за жэрдку з вочапам. Якая з дзяўчат ухопіцца апошняя — той першай давядзецца і замуж ісці. (Зап. У. А. Васілевіч у Капыльскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 88, спр. 239-а, сш. 1, л. 1*

### САБАКА ПАДКАЗВАЕ

Кожная дзеўка кідае сабакам аладкі, і чыю першую яны схопяць — тая і спадзяецца раней выйсці замуж.

*Берман. Календарь, с. 18*

Сабраўшыся ў адну хату, дзяўчаты пякуць з мукі булачкі велічынёю з курынае яйка, кладуць іх у рад і выклікаюць сабаку: чыю булачку ён возьме першую — тая першая і выйдзе замуж.

*Шейн, I, с. 41*

Варожачы, змятаюць з жорнаў рэшткі мукі і з яе пякуць маленькія хлябы адпаведна колькасці ўдзельнікаў варажбы. Дзяўчаты адначасова кідаюць хлябы сабаку. Чый хлеб той хутчэй ухопіць — тая выйдзе замуж раней за іншых.

*Никифоровский, с. 51*

Дзеўкі збіраюцца разам, абмятаюць жорна, і з тае мукі пякуць маленькія аладкі. Кожная дзеўка меціць сваю аладку. Потым яны клікаюць сабаку туды, дзе паложаны тыя аладкі. Чые аладкі сабака з'есць уперад — тыя дзеўкі раней пойдуць замуж.

*Сержпутоўскі, с. 113*

На Шчадраца дзяўчаты кожная выпякала аладку і прыносілі ў адну хату. Раскладвалі аладкі ў рад. Потым прыводзілі сабаку. І той ужо ў якім парадку з'есць іх (а адну за адной не еў — спачатку кожную панюхае!) — у тым парадку дзяўчаты замуж пойдуць. І гэтак кожны раз спраўджвалася! А бывае возьме чыю аладку, зацягне куды і не з'есць, то тая ўжо дзеўка разыдзецца з хлопцам. (Зап. У. А. Васілевіч у Капыльскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 88, спр. 239-а, сш. 2, л. 11 адв.*

На багатую куццю пяклі аладкі на варажбу, ставілі зэдаль, і кожная дзяўчына ложыць на яго сваю аладку. Прыводзяць сабаку ў хату, і чыю ён першую з'есць — тая перш выйдзе замуж. Чыю скіне ў памыйнае вядро — тая ўтопіцца (Зап. у Смаргонскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 248*

## КУРЫ ПАДКАЗВАЮЦЬ

У нас на Шчодрыкі кожна дзеўка сыпле на зямлю па жменьцы ячменю, кожна паапроч свой, потым упусціць пеўня: да каторай горбачкі певень падыдзе і пачне дзяўбсці — тая ўпярод замуж пойдзе.

*Federowski, s. 314*

Насыпаюць кучку куцці, даюць есці пеўню і лічаць зярняты, што засталіся, і пры гэтым прыкмячаюць, калі акажацца цотка — выйдзе замуж, лішка — не.

*Шейн, I, с. 41*

Пасля вячэры дзеўкі выганяюць з-пад печы курэй і сыплюць ім куцці. Калі куры добра клююць куццю, то ў мясаед будзе шмат вяселляў і можна чакаць сватоў.

*Сержпутоўскі, с. 111*

Напярэдадні Раства, перад «багатай куццёй», дзяўчаты вугалем ■ печы чэрцяць кола, сыплюць зерне і, кідаючы ў сярэдзіну пярсцёнак, клічуць куры. Калі тыя выкінуць пярсцёнак за межы кола, то дзяўчына на працягу года выйдзе замуж.

*Moszyński, s. 149*

Дзяўчына для варажбы бярэ з падпечча курыцу і паволі пераносіць яе ў «кутні» вугал. Стан курыцы ў гэты час паказвае на характар будучай свякрухі: калі курыца не рвалася з рук, не крычала, то і свякруха будзе спакойная, не задзірыстая.

*Никифоровский, с. 52—53*

Калі куры спакойна клююць пакладзеную ім куццю, не б'юцца, то ў дзяўчыны, якая варожыць, будзе ціхі, спакойны муж, у адваротным выпадку — задзірысты і буйны.

*Никифоровский, с. 51*

Выпускалі петуха. Ставілі перад ім стакан вады, кальцо, зеркала. Калі ён у кальцо дзяўбнець — замуж пойдзеш, у зеркала — жаніх фарсісты, у ваду — п'яніца. (Зап. У. А. Васілевіч у Кыштоўскім р-не Новасібірскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў з-пад Быхава).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 111*

Пад печчу зімою былі куры. У святыя вечары даставалі пеўня, ставілі люстэрка, ваду, авёс. Калі падыдзе да люстэрка — зухаваты будзе, да вады — п'яніцай будзе, да аўса — аратым, рабочым. (Зап. у Кыштоўскім р-не Новасібірскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 13*

## КАВАЛЕР ЦІ ЎДАВЕЦ?

Сор у хаце падмятуць і ідуць на вуліцу. Еслі ўстрэцяцца стары чалавек — пойдзеш за жанатага, малады — за маладога. (Зап. у Балоцінскім р-не Новасібірскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў з Магілёўскай губ.).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 158*

У «Шчодрык»... знаходзяць вялікі плот, зроблены з частаколу, у якім па меншай меры было б 100 калоў. Знайшоўшы такі плот, пачынаюць варажыць... Любы першы кол называюць «маладзец», а наступны за ім — «удавец», трэці — зноў «маладзец», а чацвёрты — «удавец» і г. д. Калі апошні кол будзе «ўдавец», значыць, быць дзяўчыне, якая варожыць, за ўдаўцом; у адваротным выпадку яе жаніх будзе «маладзец». (Зап. у Камянцы).

*Крачковский, с. 8*

У вячор перад Раждзяством дзеўкі тын лічаць, прыгаворваючы: «Ці тын, ці тынішча, ці тын, ці тынішча». Калі выйдзе цот, то замуж выйсці, калі лішка, дык не.

*Шейн. БНП, с. 452*

Увечары, перад Вадохрышчам, лічаць калы ў плоце; перабіраюць іх усе да канца, прыгаворваючы: «Кол — каліца, кол — каліца»; калі на апошняй акажацца кол — значыць, выйдзе замуж, а калі каліца — значыць, не выйдзе.

*Богданович, с. 88*

Выбягаюць да плота ці на агароды і лічаць калы ў плоце, прыгаворваючы: «То кол — то калец, то кавалер — то ўдавец» альбо: «То тын — то тынец, то хлопец — то ўдавец». Хлопцы, якія гэтаксама варожаць, прыгаворваюць: «То кол — то каліна, то ўдава — то дзяўчына» альбо: «То тын — то тыніна, то ўдава — то дзяўчына». Слова, вымаўленае пры апошнім калку, менавіта і ёсць чаканая варажба.

*Federowski, s. 312*

Дзяўчына, якая жадала выйсці замуж, выбраўшы адвольна месца ў плоце, бралася за кол і гаварыла: «Ета кол — ета калішча, ета маладзік — ета ўдавішча». Так яна перабірала кожны кол да апошняга. Калі ў гэтым месцы

былі сказаны словы «ета маладзік», то дзяўчына выйдзе замуж за халастога, калі «ета ўдавішча» — за ўдаўца.

*Минько, с. 48*

Дзве дзяўчыны ідуць да плоту і становяцца каля яго на адвольнай між сабою адлегласці. Затым набліжаюцца адна да аднае і хапаюць па чарзе рукамі калкі ў плоце, кажучы: «Кавалер — удавец, кавалер — удавец» і г. д., аж пакуль не сыдуцца. Якая схопіць апошні калок са словам «кавалер» — выйдзе за кавалера, якая — «удавец» — за ўдаўца.

*Szukiewicz, 4, s. 114*

## ХТО ЁН — ЯКОГА НОРАВУ, ЧЫМ ЗАЙМАЕЦЦА?

...Бяруць тры пасудзіны: пад адну кладуць хлеб, пад другую — шчотку, а пад трэцюю — пярсцёнак. Адной з прысутных дзяўчат, нявесце, завязваюць вочы: яна павінна падысці да якой-небудзь пасудзіны і вынуць пакладзеную туды рэч. Калі пападзе на пасудзіну, пад якой знаходзіцца пярсцёнак, ёй, значыць, давядзецца выйсці замуж за молайца, калі возьме пасудзіну з хлебам — выйдзе за багатага; у апошнім выпадку ў жаніхі дзяўчына павінна чакаць для сябе ўдаўца (Зап. у Докшыцах).

*Крачковский, с. 7*

Акрамя адзіночнай варажбы, калі дзяўчына сам-насам даведваецца пра сваю будучыню, бывае варажба сумесная. Дзяўчаты збіраюцца ў адну хату і ставяць чатыры талеркі: пад адну падкладаюць вугаль, пад другую пясок, пад трэцюю венік, а пад чацвёртую пярсцёнак і потым вымаюць; тая, што вынула пярсцёнак, верыць, што ў наступным годзе выйдзе замуж і муж будзе малады; вугаль прадказвае кепскую замужнюю долю; пясчынка — смерць; венік лічыцца сімвалам старога мужа.

*Булгаковский, с. 183*

Кладуць пад талерку галаўныя каптуры, пацеркі і ключы; прадметы гэтыя кладзе адна з дзяўчат, а ўсе астатнія па адной прыходзяць з сенцаў і бяруцца за тую ці іншую талерку. Калі будзе пад талеркаю каптур, то

замуж пойдзе, а калі пацеркі, то будзе плакаць увесь год; ключы азначаюць багацце ў замужнім жыцці.

*Булгаковский, с. 183*

Замужняя жанчына трымае пад накрыўкаю наступныя рэчы: хлеб, пярсцёнак, шчотку, шыла, іголку і інш. і запрашае дзяўчат — удзельніц варажбы — па чарзе падыходзіць і браць адну якую-небудзь рэч. Тая, якая дастане хлеб, будзе мець багатага жаніха, пярсцёнак — прыгожага, шчотку — злоснага, шыла — шаўца, іголку — краўца.

*Никифоровский, с. 52*

Перад самай вячэрай бацькі, выправіўшы хоць дзеля чаго сваю дачку з хаты, пад міскі са стравою, што стаяць на стале, падкладаюць: пярсцёнак пад адну, шчотку пад другую, а пад трэцюю — грабянец. І вось калі дзеўка сядзе вячэраць і выйме з-пад міскі спачатку пярсцёнак — гэта пэўны знак, што выйдзе за кавалера, калі шчотку — удавец прапануе ёй руку, грабянец жа прадказвае, што да самай смерці суджана ёй руту сеяць. Трэба тут дадаць яшчэ, што гэта варажба раз толькі робіцца, менавіта калі дзеўка пачынае семнаццаты год жыцця.

*Federowski, s. 315*

Кладуць на стол кветкі, пацеркі, чэпак, ляльку і ключы, і ўсе выходзяць за дзверы, анно адна застаецца, панакрывае гэта ўсё міскамі і тады выклікае па адной. Тая, прыйшоўшы, паднімае адну міску: калі пад ёю ляжыць кветка, то ў гэтым року не пойдзе замуж, калі пацеркі, то пастарэе дзеўкаю, калі чэпак, то да року замуж пойдзе, калі ключы, то пойдзе служыць, и як лялька, то скур...ца (страціць дзявоцтва). Кожну дзеўку пяць разоў выклікаюць, і за кожным разам анно адну рэч можна ёй адкрыць. Робяць і гэтак, што ўсе астаюцца, анно адна выходзіць і так усе па чарзе.

*Federowski, s. 313*

Пад шапку клалі розныя прадметы. Калі выцягнеш чарку, то муж будзе п'яніцай, калі ключ, то будзеш гаспадыняй, калі ляльку — родзіш дзіця да замужжа. (Зап. у Докшыцкім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 89, спр. 240, сш. 2*

Пад шапку клалі грошы, вугаль, чарку, ляльку. Калі выцягнеш грошы, то разбагацееш, калі вугаль, то памрэш, калі чарку — муж будзе п'яніца, калі ляльку — родзіш да замужжа дзіця. (Зап. у Докшыцкім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 89, спр. 240, сш. 2*

У Веткаўскім раёне ў валёнкі клалі зерне, хлеб, вугаль. Хто з дзяўчат выцягваў зерне — да багатага замуства, хто вугаль — да кепскага сямейнага жыцця, у спрэчках і варожасці. Каму даставаўся хлеб — да шчаслівай сям'і.

*Літ. і маст., 1991, 10.05, с. 13*

Калі дзяўчына жадае даведацца, якога нораву будзе ў яе муж, яна павінна кінуць у сачэльнік у раку камень. Калі камень з шумам пойдзе на дно — муж будзе злосны, а калі ціха — муж будзе смірны.

*Суеверия, с. 117*

Каменні ў бані хваталі з печкі ў 12 часоў і кідалі ў ваду. Як бурчыць доўга — свякрова бурклівая будзе, а маўчыць — свякрова спакойная. (Зап. У. А. Васілевіч у Свабодненскім р-не Амурскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў).

...Ставяць шклянку ці лыжку з вадою на акно: калі на працягу ночы вада застанецца цэлая — прыкмета, што муж будзе цвярозы, а калі пральецца, то будзе п'яніца.

Варажба дзяўчат пачынаецца яшчэ з самай Каляды. Так, некаторыя з дзяўчат, будучы яшчэ ў лазні, выходзяць голыя і качаюцца па снезе і потым назаўтра глядзяць, наколькі дакладна выйшаў іх адбітак. Калі адбітак не гладкі, а палосамі удоўж і ўпоперак — значыць, муж будзе прыдзірлівы.

*Шейн. БНП, с. 56*

Удзельніцы варажбы вешаюць свае паясы на «градку» і, адвёўшы іх у адзін бок, адразу адпускаюць: чый пояс доўга стане целяпацца — у той дзяўчыны муж будзе п'яніца, буйны чалавек і наадварот.

*Никифоровский, с. 53*

На Шчадраца дзяўчаты ішлі на дрывотню і выцягвалі паленцы. Калі палена аказвалася ў кары, з сукамі —

муж будзе багаты; калі палена голае, без кары — муж трапіцца бедны. (Зап. у Бабруйскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, сш. 1*

Ішлі ў баню і сувалі руку праз акно. Калі голае рука схопіць — за беднага пойдзеш; калі касматае — багаты возьме. (Зап. У. А. Васілевіч у Кыштоўскім р-не Новасібірскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў з-пад Прапойска, цяпер Слаўгарада).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 101*

На куццю трэба набраць кожнай стравы патроху і пакінуць усё на накрытым стале ў асобным пакоі. Апоўначы дзяўчына павінна назіраць праз дзірку ад ключа і ўбачыць свайго суджанага. Можа таксама яна быць у тым самым пакоі, але тады сама павінна голасна паклікаць: «Прашу на вячэру!» Аднак нельга пры гэтым класці нажа ці відэльца, бо той, хто пакажацца, можа забіць.

*Wisła, 3, s. 275*

Адасобіўшыся ў пакоі ці ў клеці, глядзяць праз пярсцёнак на полымя свечкі, спадзеючыся ўбачыць суджанага ці тое, што будзе.

*Богданович, с. 87*

На Каляды, на Шчадраца ставілі стакан з вадою на люстэрка, кідалі ў ваду заручальны пярсцёнак у 12 гадзін, глядзелі ў стакан і чакалі ўбачыць жаніха. Для большага страху ўсё гэта прараблялі не ў хаце, а на гарышчы, каля коміна.

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 88, спр. 239-а, сш. 1, л. 28 адв. — 29*

На Хрышчэнне да 12 часоў прынесці вады і мелка перасеяць залы. Узяць чыстую белую талерку, на талерку чысты белы ліст, на ліст насыпаць залы, на залу паставіць стакан вады, у стакан залатое кальцо. У 12 часоў запаліць свечку і глядзець у кальцо — увідзіш жаніха. (Зап. у Смаргонскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 248*

Дзяўчыны, каб узнаць жаніха, на Каляду замыкаюць калодзеж; той, хто прыйдзе да дзяўчыны за ключом, і будзе яе жаніхом.

*Шлюбскі, І, с. 47*

Выбягаюць на вуліцу і пытаюць імёны прахожых. Якое імя пачуе дзяўчына — гэта будзе імя яе суджанага. Падслухоўваюць пад вокнамі суседзяў, і калі ў хаце чутна спакойная размова ці смех — добрая прыкмета; калі ж спрэчка ці лаянка — дурная прыкмета — жыццё ў замужжы будзе неспакойным...

*Дембовецкий, с. 631*

Хлопцы й дзеўкі пытаюць, каго сустрэнуць, кім іх завуць. Якое тыя скажуць імя, так будуць зваць суджанага ці суджаную. Калі ж дзеўка ўперад сустрэне жанчыну, а хлопец — мужчыну, то, пэўне, у той год не мае быць у па́ры.

*Сержпутоўскі, с. 112*

На посную куццю, пад Крашчэнне, бяруць куцці ў рот, як толькі сядуць за стол, і бягуць — і каго ўстрэціш: як таго зваць будуць, так мужа будуць зваць. (Зап. У. А. Васілевіч у р-не імя Лазо Хабараўскага краю ад беларусаў-перасяленцаў).

У талерку налівалі вады, а на беражкі клалі паперкі з напісанымі на іх імёнамі хлопцаў. А тады клалі на ваду верхнюю скарыначку хлеба, кавалачак свечкі на яе. Затым трэба было тройчы пакруціць «медзеным» пальцам па вадзе вакол скарынкі. Да якога імені скарыначка прыстане, тое імя будзе і ў жаніха. (Зап. У. А. Васілевіч у Шумілінскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 89, спр. 240, сш. 1, № 17*

Падалі на снег. Як харошы снег, не драпаны, то, значыць, харошы будзе жаніх. А як драпаны, то будзе рабы. (Зап. У. А. Васілевіч у р-не імя Лазо Хабараўскага краю ад беларусаў-перасяленцаў).

## ЯКОЙ ДОЛІ ЧАКАЦЬ?

Калі на першую куццю за вячэраю ў дзяўчыны з рук упадзе лыжка, то ёй суджана, што яе першы жаніх памрэ.

*Сержпутоўскі, с. 111*

Напярэдадні Новага года льюць волава ці свінец у ваду і па фігурах варожаць.

*Богданович, с. 87*

Калі, льючы волава, выльецца дзеўцы вянок, то пойдзе замуж да року, а калі труна, то ўмрэ.

*Federowski, s. 314*

На багатую куццю расплавіць у печы волаўя і ліць яго ў міску з вадой, якая стаіць на галаве ў якой-небудзь дзяўчыны. Потым глядзіш на цень ад волаўя на сцяне. Калі ўвідзіш калыску — байструк будзе, самалёт — выйдзеш замуж за лётчыка. (Зап. у Смаргонскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 248*

Хлопцы і дзяўчаты плавяць воск і льюць у ваду, стараючыся па адлітых фігурах угадаць пра свой лёс.

*Богданович, с. 87*

Дзеўкі разбіваюць яйка і бялок пускаюць на ваду, а назаўтра глядзяць, падабенства якіх прадметаў ён набыў, і выказваюць разнастайныя меркаванні.

*Federowski, s. 313*

Разбівалі сырое яйцо і — плюх у стакан. Глядзелі: калі паказалася цэрква — дзеўка выйдзе замуж. (Зап. У. А. Васілевіч у Кыштоўскім р-не Новасібірскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў з-пад Быхава).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 110*

Дзеўкі на Шчодры вечар пякуць з жытняй мукі па дзве кругленькія бондачкі, на сябе і на свайго каханка, пусціўшы іх на ваду, зварушваюць, каб хадзіла: калі булачкі, паплаваўшы, пастануць пры сабе, то пойдзе за таго, а як не, то не.

*Federowski, s. 314*

На Шчодры вечар кожна дзеўка пушчае дзве голкі на ваду, на сябе і свайго маладзіка (хлопца): калі голкі паплаваюць і зыдуцца, то яны пажэняцца, а калі паасобна пастануць або пойдуць на дно, то ніц з іх вяселля не будзе.

*Federowski, s. 314*

Дзве прыяцелькі ў найвялікшай таямніцы са скручаных у некалькі разоў нітак і воску робяць свечкі, ставяць іх на дошчачкі ці карты і, запаліўшы, ставяць насупраць сябе і кожная паасобку сваю свечку на ваду пускаюць (адна свечка павінна ўвасабляць мілага сэрцу хлопца, а другая — дзяўчыну). Калі свечкі падплывуць адна да адной, гэта лічыцца бясспрэчным знакам, што маладая

пара ў недалёкай будучыні будзе звязана сямейным вузлом.

*Federowski, s. 315*

Трэба, замкнуўшыся ноччу ў лазні і паставіўшы перад сабой люстэрка, а па баках ад яго дзве свечкі, глядзець у люстэрка, не міргаючы, не адрываючы вачэй і не азіраючыся па баках. Хто не палахлівы і выканае ўсе ўмовы ў дакладнасці, той убачыць, маўляў, усё, што яго чакае значнае наперадзе.

*Богданович, с. 87—88*

На Новы год, як толькі гадзіннік праб'е дванаццатую гадзіну, трэба напісаць як мага хутчэй на паперцы якое-небудзь жаданне і спаліць яго з апошнім боем гадзінніка, і збудзецца ўсё, што задумана.

*Wisła, 3, s. 274*

Дзяўчаты... бягуць да калодзежа, мачаюць у ваду лучыну, прыносяць дадому і запальваюць: чыя лучына гарыць ярчэй, святлей, той і замужам будзе лепш. (Зап. у Дзісенскім п.)

*Крачковский, с. 165*

Бяруць пучок саломы і шукаюць, ці не знойдзецца ў ім хоць адзін колас з зернем; калі такі колас знойдзецца, то замужняе жыццё пройдзе ў дастатку, а калі не, то ў беднасці.

*Шейн. БНП, с. 56*

Дзяўчата ў нас зараз па багатай куцці пушчаюць васількі (гэта, паночку, дзве галінкі льну запаленага і ўгару падкінутага): калі яны палятаюць і зыдуцца, то дзеўка з тым маладзіком (хлопцам), на каторага пусціла, пажэняцца.

*Federowski, s. 313*

Падыходзіць хлопец да дзяўчыны, якую ён любіць і жадае ўзяць за жонку, вырывае ў яе з кудзелі шматок, дзеліць яго на дзве роўныя часткі і, лёгка скатаўшы з гэтых частак ільну ў руках два шарыкі, кладзе іх побач на стол і падпальвае. Адзін шарык азначае хлопца, а другі дзяўчыну. Калі абодва шарыкі, ахопленыя полымем, узлятаюць угору, а часам яшчэ і сутыкаюцца там, то гэта азначае поўную ўзаемнасць між вядомай парай,

якая закончыцца шчаслівым шлюбам. Калі ж адзін толькі шарык узлятае, а другі застаецца, то гэта — нелады і нязгода. Калі ж абодва застаюцца і згараюць на стале, то гэта азначае, што хлопец і дзяўчына любяць адзін аднаго і жадалі б павянчацца, ды здарыцца неадольная перашкода да іх шлюбу, і шлюб, на іх бяду, не адбудзецца (Слонім. п.).

*Шейн, III, с. 370—371*

Дзеўкі паляць на лучніку шматкі кудзелі і, гледзячы па тым, куды паляціць попел — угору, у трубу ці ападзе на жалезнай рашотцы, мяркуюць пра выкананне сваіх жаданняў — ну, вядома, пра выйсце ці нявыйсце замуж на той год.

*Шпилевский, 1853, № 3, с. 95*

Бяруць шэсць кавалкаў сцяблін ільну ці іншай расліны, якая не ломіцца, і, трымаючы іх пасярэдку ў жмені, звязваюць па пары з абодвух канцоў. Калі ж, адпусціўшы, утворыцца з тых кавалкаў адзін вянец — гэта добры знак для дзяўчыны.

*Wisła, 3, s. 275*

Дзяўчаты, зацікаўленыя ў адносінах жаніхоў (калі колюць кабана), атрымліваюць у сваё распараджэнне пячонку і, узіраючыся ў яе бліскучую паверхню, стараюцца ўбачыць там адбітак свайго будучага лёсу.

*Богданович, с. 85*

## ПЕРАД СНОМ...

У некаторых сёлах ёсць звычай, што калі ў сям'і ёсць дарослая дзяўчына-нявеста, то яна, калі бацька возьме першую лыжку куцці, гаворыць бацьку: «Тата, паглядзі, нехта ў акно глядзіць». Бацька азірнецца да акна і не глядзіць ці робіць выгляд, што не глядзіць на лыжку з куццёй, якую ён трымае ў руцэ, а дзяўчына хутка бярэ куццю з бацькавае лыжкі і завязвае ў хустку. Збіраючыся спаць, дзяўчына кладзе гэтую куццю пад галаву, і калі ў гэту ноч ёй сасніцца добры сон, то значыць, што ў гэтым годзе яна выйдзе замуж.

*Дембовецкий, с. 521*

Бяруць першую лыжку куцці ў час вячэры, але так, каб ніхто гэтага не бачыў, і кладуць пад галаву перад

сном з вераю, што ўночы абавязкова прысніцца жаніх; калі ж прысніцца што-небудзь са свяшчэнных прадметаў ці дошкі і труна, то ці яна, ці жаніх павінны памерці.

*Шейн, I, с. 41*

Калі пачнуць есці куццю, дзяўчына кладзе першую лыжку не ў рот, а запазуху і адкладзеную такім чынам куццю рассыпае па хаце пасля таго, як усе хатнія палягуць спаць, прыгаворваючы: «Дай Божа знаць, з кім буду спаць!» Прысніцца абавязкова суджаны.

*Никифоровский, с. 52*

Як ядуць куццю, дзеўка бярэ ложку куцці й кладзе яе сабе запазуху. Потым, як усе лягуць спаць, яна сее тую куццю па хаце й прыказвае: «Святы Шчадрэц, дай тое пазнаць, з кім я буду спаць». Як засне, то прысніцца суджаны.

*Сержпутоўскі, с. 112*

У дзень Новага года... дзяўчаты, а часам і жанчыны стараюцца ўзяць патаемна ў мужчыны якую-небудзь рэч і, збіраючыся спаць, кладуць яе ў сябе пад падушкай. Калі такую рэч убачаць у сне, то гэта лічыцца самым добрым прадказаннем.

*Корева, с. 612*

Дзяўчына кладзе сабе на ноч пад галаву грабянец, і хто будзе ў сне ім часацца — той будзе суджаны яе.

*Булгаковский, с. 183*

Грабянцом пачэшашся і кладзеш на грудзі. Хто сасніцца — за таго замуж пойдзеш. (Зап. У. А. Васілевіч у Кыштоўскім р-не Новасібірскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў з-пад Быхава).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 112*

На Каляды дзяўчаты навешвалі на вішню хустку, вярталіся ў хату і ні з кім ужо не гаварылі. Клалі пад падушку мыла, грабянец, ручнік і чакалі, хто з хлопцаў сасніцца, хто будзе пераводзіць дзеўчыну цераз кладку. (Зап. У. А. Васілевіч у Капыльскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 88, спр. 239-а, сш. 1, л. 18—18 адв.*

Як хлопцы, так і асабліва дзяўчаты ставяць пад свае ложкі ці лавы, на якіх спяць, гаршкі з вадою, а на тых гаршках кладуць лучыну крыж-накрыж, і той, хто ў сне

пяройдзе праз гэту лучыну, будзе суджаным ці суджанаю; а таксама запасаюцца дзяўчаты да гэтага дня новым гаршком, які ставяць пад свой ложак, і кладуць кавалак хлеба на лучыне; раніцай глядзяць: калі хлеб упаў у гаршчок, то не скора выйдзе замуж, калі ж застанецца на лучыне — замужжа на той жа год.

*Булгаковский, с. 184*

Пад Новы год здзелай з палачак калодзезь (2—3 вяночкі), набяры поўную кружку вады і пастаў усяродак у «калодзезь» і лажысь спаць. І скажы: «Госпадзі, з кем мне век векаваць, дай мне Бог ува сне павідаць, няхай мне вады падасць». От усё. Матка мая загадала, прысніўся парань. Ён быў красівы, галубаглазы, кучаравы-кучаравы быў, русы, цёмна-русы. І вот няма і няма. Ужо і год канчаецца. Прыходзіць у сваты з другея дзярэўні. Я яго, кажа, век не бачыла. Але як, кажа, глянула — той, што ўва сне прыходзіў; той, што мне вады падаў. Значыць, судзьба мая. Ідзі! І праўда, пражыла яна — 15 дзяцей было ў маткі. Ён яе пальцам не тронуў... (Зап. У. А. Васілевіч у Чугуеўскім р-не Прыморскага краю ад беларусаў-перасяленцаў).

У час варажбы дзяўчына трымае ў зубах лучыну, запаленую з абодвух канцоў, падыходзіць да рачной ці азёрнай вады і тушыць лучыну, абмачыўшы ў вадзе спачатку правы канец, а потым левы: уночы абавязкова прысніцца суджаны — з ім дзяўчына будзе пераходзіць праз раку ці ручай па кладцы.

*Никифоровский, с. 53*

Дзеўка ці хлопец бярэ ў рот лучыну, запаліўшы яе з двух канцоў, і тушыць агонь дзе-небудзь у палонцы, утыкаючы ў ваду перш правы канец лучыны, а потым левы. Не азіраючыся, й моўчкі варочваецца дамоў, робіць з лучыны дзевяць маленькіх масніц і кладзе іх радком, бы масток, сабе пад голаў. Ноччу не хібіць прысніцца суджаны ці суджаная, як яна будзе пераходзіць цераз рэчку па кладцы ці па мастку.

*Сержпутоўскі, с. 112*

На Вадапосце вячэру варაць, а катора хоча гадаць, то сама сабе наварыць салёных з лушпайкамі картопляў, ні з кім не гаворыць і лажыцца спаць, а ўночы прысніцца сон, што хлопец воду падае, — за таго пойдзе.

*Толстая, с. 192*

Рабілі з лучыны форму накшталт зруба. Ставілі туды кружку вады і клалі на яе замок. А ключ хавалі пад падушку. Прыгаворвалі: «Ражон, су́джон, прыйдзі вады піць». І ў гэту ноч павінен сасніцца будучы муж. (Зап. А. Ю. Лозка ў Лельчыцкім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 86, спр. 232*

Замыкалі калодзезь: абысці з незамкнёным замком 3 разы калодзезь. Потым замок замкнуць, ключ пакласці пад падушку і 3 разы сказаць: «Суджаны, раджаны, прыввадзі каня паіць і прыйдзі ключа прасіць!» (Зап. у Докшыцкім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 89, 240, сш. 2*

У святыя вечары пад акном сеялі авёс. Загадвалі на замкнуты замок, з кім будзеш збіраць авёс. (Зап. У. А. Васілевіч у Кыштоўскім р-не Новасібірскай вобл. ад беларусаў-перасяленцаў).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 12*

## НА ДОЎГАЕ ЖЫЦЦЁ

Калі на Коляды хмурна, то будзе здароўе на людзей дурна.

Калі на першу Каляду (Раство) сонца не відна, то маладыя людзі будуць уміраці.

Калі на вадзяную Каляду (Вадохрышча) хмурна, то на старых людзей будзе дурна. (Зап. на Пружаншчыне).

*Federowski, s. 147*

Калі свята Каляд выпадае ў пятніцу, то на той год будзе паміраць больш жанчын, чым мужчын, калі ў аўторак ці чацвер, то больш мужчын, а калі ў панядзелак, то жанчыны ў тым годзе з цяжкасцю будуць раджаць.

*Булгаковский, с. 181*

Калі чый-небудзь цень з прысутных адбіваецца невыразна ці, што яшчэ горш, зусім бывае не відзён, такі чалавек, значыць, ці памрэ ў бягучым годзе, ці выйдзе з сям'і.

*Крачковский, с. 164*

Як толькі запаляць у хатах лучыну, члены сям'і ў поўным зборы глядзяць на абрысы ценю ўласных рук і

ноґ. Калі чые-небудзь пальцы няясна акрэсліваюцца на цэню, той не можа быць упэўнены, што дажыве да такой жа варажбы ў наступным годзе.

*Никифоровский, с. 230*

Калі ў час спажывання куцці лучына ў хаце пагасне, то хтосьці з прысутных мусіць памерці ў той год. Тое самае, калі лічба прысутных за сталом на куццю няпарная.

*Wisła, 4, s. 443*

Калі ядуць куццю, выцягваюць сцябліны сена з-пад абруса: хто даўжэйшае сцябло выцягне — даўжэй будзе жыць.

*Wisła, 4, s. 443*

Як на куццю патушаць свечку, то прыглядаюцца, у які бок пацягне ад яе дымок: калі к дзвярам, то хтось у том гаду ў сям'і памрэ, а калі на покуць, то будзе ва ўсём прыбытак.

*Сержпутоўскі, с. 206*

Пасля каляднай вячэры жанчыны кладуць свае лыжкі ў міску, у якую пакладзена крышку куцці, і ставяць міску на кут. Гэта робіцца з мэтаю ўгадаць свой лёс. Калі на другі дзень лыжкі знойдзены будуць у тым самым становішчы, у якім былі ўчора, — гэта добры знак; калі ж якая-небудзь з іх перавернецца — гэта прадказвае ўладальніцы лыжкі хуткую смерць.

*Неверович, с. 168*

## ГАСПАДАРЧАЯ ВАРАЖБА (УРАДЖАЙ, ПРЫПЛОД, НАДВОР'Е)

Калі першыя зоркі засвецяць, на стале кладуць каласы — па адным з кожнага стога, а потым, калі зярняты з іх высыплюць, лічаць іх і варожаць: колькі зярнят, столькі будзе ў наступным годзе стагоў.

*Jeleńska, s. 509*

Напярэдадні Каляд стол пакрываецца сенам, а потым ужо абрусам. Сеўшы вячэраць, жанчыны выцягваюць сцябліны, а па даўжыні іх мяркуюць пра даўжыню льну будучага ўраджаю.

*Фалютыньский, с. 78*

Пасля вячэры, не выходзячы з–за стала, жанчыны выцягваюць з–пад абруса, заплюшчыўшы вочы, сянніну, каб даведацца, які будзе лён: выцягнуўшы доўгую сянніну, вераць, што ў яе ўродзіць добры лён, а калі выцягне кароткую, то будзе лён благі. Мужчыны ў сваю чаргу спяшаюцца даведацца такім чынам, які будзе ўраджай на хлеб.

*Булгаковский, с. 181*

Выцягваюць каласістыя травы і, зыходзячы з падабенства іх каласкоў з каласамі хлебных раслін, робяць вывад, які хлеб будзе найбольш ураджайны.

*Богданович, с. 87*

Шукаюць у сене зярнятак, і калі знойдуць, напрыклад, ячменнае зярнятка — значыць, ячмень уродзіць.

*Богданович, с. 87*

Калі гатуюць на ўсе тры куцці — напярэдадні Раства, Новага года ("багатую", ці «таўстую»), Вадохрышча ("галодную", ці «посную») — куццю (кашу), то стараюцца, гатуючы, усыпаць у гаршчок аднолькавую колькасць, пры гэтым прыкмячаюць, у якую куццю гаршчок паўней кіпіць, і таму ўгадваюць пра будучы ўраджай. Так, калі на першую куццю гаршчок паўней, то ўраджай ячменю лепшы будзе ад ранняга пасеву, калі на другую, то сярэдняга, а калі на трэцюю, то позняга.

*Шейн, I, с. 39*

[Пры забіванні кабана]. Калі крыві льецца шмат, няспынным струменем — гэта значыць, што лета будзе дажджлівае, адсюль вывад, што гной трэба заворваць, а не сеяць «пад прысцілку».

*Богданович, с. 85*

Доўгая груда — брушная перагародка ("каса") — паказвае на доўгае лета, калі яна хутка звужаецца пад канец — гэта знак, што толькі першыя пасевы будуць удалыя.Назіраюць, якіх зерняў больш у трыбухах, лічачы, што такі род хлеба будзе найбольш ураджайны.

*Богданович, с. 85*

Ходзяць у хлеў з куццёй глядзець, як ляжаць цельныя каровы, і па іх палажэнню ўгадваюць, у які час сутак яны ацеляцца. Так, напрыклад, калі карова ляжыць га-

лавою на поўдзень, то гэта паказвае, што яна ацеліцца ўдзень, калі на захад — уночы, а на ўсход — раніцай.

*Шейн, I, с. 40*

На першы дзень Каляд трэба ўважаць, хто першы ўвойдзе ў хату: калі мужчына, то будуць усё баранчыкі радзіцца, а калі кабета, то авечачкі.

*Federowski, s. 350*

# УВЕСНУ

Калі маладзік (малады хлопец) першы раз вясною ўгледзіць двое буслоў на гняздзе, то ў том самым року ажэніцца.

Калі маладзік першы раз на весну ўгледзіць бусла летучы, то пойдзе ў маскалі.

Як дзеўцы пакажацца вясною першы раз бусел летучы, то вылеціць з хаты, пойдзе замуж, а як седзячы або ходзячы, то будзе ўдома сядзець.

*Federowski, s. 204*

Дзэўка павінна замячаць, як яна вясною першы раз убачыць бацяна; калі ўбачыць яго лецючы, то ў том годзе выйдзе замуж, а калі седзячы, то застанецца дзеваваць.

*Сержпутоўскі, с. 121*

У час надыходу агароднай сяўбы дзяўчаты адной ці некалькіх суседніх вёсак заворваюць асобную граду і сеюць краскі аднаго гатунку, пераважна руту: чые краскі хутчэй расцвітуць, тыя хутчэй пойдуць замуж. Адценнямі гэтай варажбы з'яўляюцца: раскошнае і благое цвіценне, бадзёрая і заняпалая зяляніна, поўная «няўсходласць». Першую паліўку кветак дзяўчаты робяць уласнай мачою.

*Никифоровский, с. 54*

Вясною дзеўка садзіць у сваём маленькум агародчыку перад вокнамі кала хаты розныя кветкі. Першы раз яна палівае свае кветкі проста сваімі ж сцакамі. Калі кветкі добра растуць і цвітуць, то тая дзеўка хутка пойдзе замуж, калі ж яны растуць, але кепска цвітуць, то суджаны будзе ліхі чалавек. Калі кветкі спрэсу прападуць, то гэта значыць штось вельмі ліхое.

*Сержпутоўскі, с. 172—173*

...З надыходам вясны звычайна сеюць ці садзяць кветкі і варожаць: калі высахнуць — гэта азначае, што любоўныя планы не адбудуцца, калі кветкі прымуцца — гэта прадказвае, што яе мары ў недалёкай будучыні з найлепшым вынікам здзейсняцца.

*Federowski, s. 311*

Дзяўчына саджае некалькі каліўцаў расады адпаведна колькасці прыемных ёй жаніхоў і загадвае на кожнага паасобку. Пры гэтым яна саджае расаду карэньчыкам угору і пакідае без паліўкі: калі пры такіх умовах каліўца прыжыве, жаніхом будзе той, на чыё шчасце ён пасаджаны.

*Никифоровский, с. 54*

Капусту (расаду) пасадзяць пад Тройцу. Дзяўчаты кожная корань падрываюць. Каторая вырасце — у той добрае жыццё. (Зап. У. А. Васілевіч у р–не імя Лазо Хабараўскага краю ад беларусаў–перасяленцаў).

Перад Тройцай у чацвер заўюць вянок на бярозе. Адразалі яго на Тройцу і задумвалі на некага: паплыве вянок — той будзе жыць, патоне — памрэ. (Зап. у Кыштоўскім р–не Новасібірскай вобл. ад беларусаў–перасяленцаў).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 19*

У чацвер ці пятніцу перад Тройцаю завівалі «в'юнкі» на бярозе. На Тройцу пускалі на ваду. Паплыў « в'юнок» далёка — у далёкую вёску пойдзе дзяўчына замуж, блізка пристане — у блізкую вёску. (Зап. у Кыштоўскім р–не Новасібірскай вобл. ад беларусаў–перасяленцаў).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 249, № 25*

# НА КУПАЛЛЕ

Напярэдадні Купалы збіраюць кветкі, вядомыя пад імем «купалак»; кожны хавае асобна сабраныя ім «купалкі» і чакае, расцвіце бутон яго «купалкі» ці не. Калі зусім не распусціцца, то верацъ, што хутка памрэ гэты чалавек.

*Шпилевский, 1854, № 6, с. 64*

Утыркваюць у абразы «купалку», і калі яна на наступны дзень акажацца раскрытай, гэта значыць выкананне жадання і наадварот.

*Богданович, с. 111*

Кветкі «купалкі» бяруць па адной нераспушчанай галінцы, наканаванай для кожнага з жыхароў хаты і жывёл, і ў шчыліны сцен у хаце ўтыркаюць. Чыя галінка расцвіце, той на працягу года будзе здаровы і вясёлы, а чыя завяне — той будзе хварэць і памрэ.

*Wereńko, s. 108*

У Слонімскім павеце акрамя крапівы ўтыркаюць яшчэ ўздоўж сцяны, пачынаючы з абразоў, па адной не распушчанай яшчэ кветцы, званай «купалкаю», на кожнага з членаў сям'і паасобку, прычым уважліва прыкмячаецца, на чыё імя ўтыркаецца кветка. Кветкі гэтыя. . застаюцца ў сцяне на працягу тыдня... У якой паслядоўнасці кветкі распусцяцца, у такой менавіта і наступіць смерць членаў сям'і, адзін за адным. Часта здараецца, што праз тыдзень кветка яшчэ не распусціцца, і тады яе пакідаюць на больш працяглы тэрмін, але затое не вымаюць тады са сцяны і іншых, ужо распушчаных кветак.

*Шейн, I, с. 220—221*

На Купала вечарам па заходзе сонейка дзеўка хуценька бяжыць у поле так, каб яе ніхто не ўбачыў. Там яна рве купальскае зелле, але толькі такое, у яком каточкі яшчэ не распусціліся. Потым, не аглядаючыся, яна варочаецца дадому, затыкае купальскае зелле над сваёю пасцеллю ў шчыліну, а частку кладзе сабе пад галаў і лажыцца спаць. Ноччу яна прысніць свайго суджанага. Калі ж назаўтра каткі, што заткнуты ў сцену, да добра распусцяцца, то будзе шчаслівая жытка, а калі не, то чакае ліхая доля.

*Сержпутоўскі, с. 103—104*

На Яна рвалі нейкае зелле з нераспушчанымі кветкамі і ўтыркалі ў хаце ў шчыліны ці за бэлькамі. Калі кветкі распусцяцца — дзяўчына выйдзе замуж ці так што збудзецца. Пасля вайны гэтак рабілі ўдовы — варажылі, ці прыйдуць іх мужыкі з вайны. (Зап. У. А. Васілевіч у Капыльскім р-не).

*АІМФ, ф. 8, воп. 88, спр. 239-а, сш. 1, л. 29 адв.*

Пасля паўдня хлопцы і дзяўчаты пры ўмове, колькі дзяўчат, столькі і хлопцаў, усе разам накіроўваюцца на луг ля рэчкі ці возера, і, прыйшоўшы на выбранае месца, спачатку кожная асоба збірае лугавыя кветкі і робіць вянок. Звіўшы, папарна, як атрымаецца, пускаюць па чарзе свае вянкі на ваду і сочаць, як яны адплываюць. Гэта цнатлівая варажба пра свой лёс: напрыклад, разлучэнне вянкоў паказвае на нясуджанасць сумеснага жыцця; калі патоне адзін вянок — смерць; спыніцца адзін вянок і прыстане да іншага — не быць у па́ры з выбранай асобай і інш.

*Носович, с. 61*

На Купалы жа дзеўкі вянкі пускаюць па вадзе: куды паплывець — у ту сторану замуж выйці.

*Шейн, БНП, с. 142*

Вянкі ў возера (у стаячую ваду) пускалі парамі на 1—2 метры адзін ад другога. Ваду палкаю пакруцяць і глядзяць: калі сыдуцца, то дзеўчыне суджана замуж ісці; калі разыдуцца, то не. (Зап. У. А. Васілевіч у Шумілінскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 89, спр. 240, сш. 1, № 44*

Чый вянок хутчэй згарыць (на купальскім вогнішчы), тая дзеўка скарэй усіх выйдзе замуж. Хлопцы кідаюцца ў вагонь, каб выхваціць адтуль вянок тае дзеўкі, якая падабаецца. Калі хлопец выхваціць з агню вянок дзеўкі, то яна пакахае яго й выйдзе замуж.

*Сержпутоўскі, с. 102—103*

Калі дзеўка пераскочыць цераз вогнішча і хоць адна іскрынка прычэпіцца да спадніцы, значыць, дзеўка ўжо хоча замуж. (Калі тое ж здарыцца мальцу, то ён ужо як жэніцца, то будзе па бабах хадзіць, ён, як кажуць, «апасны малец».) Калі да спадніцы іскра не прыстане, значыць, дзеўка «цярплівая», не адразу пойдзе замуж. (Зап. У. А. Васілевіч у Шумілінскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 89, спр, 240, сш. 1, № 45*

Варожаць на Купалу: у начной сарочцы аббягае дзяўчына тройчы вакол калодзежа і раскідвае мак (імітуе), а потым ідзе ў дом і, ні з кім не гаворачы, кладзецца спаць. Уночы ёй павінен сасніцца жаніх. (Зап. у Капыльскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 88, спр. 239-а, сш. 5, л. 2*

На Івана трэба ісці ў пшанічнае поле і тройчы выкупацца ў расе. Ісці трэба ў лішку — 1, 3, 5 чалавек. Потым бегчы дамоў і, нічога не кажучы, класціся спаць. Павінна прысніцца нешта значнае. (Зап. у Докшыцкім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 89, спр. 240, сш. 2*

Каб угадаць, хто будзе яе мужам, дзяўчына выпраўляецца на перакрыжаванне дарог і, звязаўшы букет ружаў, вымае з яго ружы па па́ры, прыгаворваючы: «нядзеля з панядзелкам, панядзелак з аўторкам» і г. д., нарэшце, дайшоўшы да суботы, гаворыць: «субота адна і я адна». Затым вяртаецца дадому, цалкам перакананая, што ёй сасніцца жаніх. А сны вельмі важную ролю адыгрываюць пры варажбе.

*Шпилевский, 1854, № 6, с. 66*

Дзяўчына, каб даведацца, хто будзе яе мужам, ідзе ў дзень св. Іаана на перакрыжаваныя дарогі, звязвае там пучок пруткоў і вымае іх з яго па́рамі, прыгаворваючы: «нядзеля з панядзелкам, аўторак з серадою, чацвер з пятніцай, субота адна і я адна». Зрабіўшы гэта, яна ідзе спаць і ў сне атрымлівае жаданую вестку.

*Шейн, III, с. 490*

Кветкі напярэдадні Іванава дня выкарыстоўваюцца дзяўчатамі для варажбы. Сабраўшы васількоў і іншых кветак колькасцю 12 штук, яны ідуць з імі на перакрыжаванне дарог і, прачытаўшы тут «Багародзіцу», вяртаюцца дадому, асцерагаючыся з кім-небудзь загаварыць; яны кладуцца з кветкамі спаць у поўным перакананні, што ім прысніцца суджаны, наканаваны самім Богам.

*О. Б-ский, № 342*

Напярэдадні св. Яна ішла дзяўчына на поле, ірвала зубамі трошкі льну, клала яго рукамі запазуху, пасля чаго, стараючыся нікога не бачыць і нікім не быць убачанай, хавалася дзе-небудзь у зацішным месцы і там засынала; будучы муж павінен быў ёй убачыцца ў сне. Такога роду варажбу называюць «прычынай».

*Moszyński, s. 149*

На Купала (23.VI) пасля заходу сонца, як заблішчаць на небе зоркі, дзеўкі голыя бягуць дзе-небудзь недалёка за вёску на растанцы, становяцца ракам і зубамі, бы

говяда, рвуць падарожнік. Яны з гэтым зеллем моўчкі бягуць дамоў і лажацца спаць, а падарожнік кладуць сабе пад голаў. Ноччу не хібіць прысніцца суджаны.

*Сержпутоўскі, с. 103*

На Купала гэтак варажылі. Позна вечарам, пасля танцаў трэба было бегчы на крыжавую дарогу і там у 12 часоў, заклаўшы рукі за спіну, нахіліцца наперад тройчы і зубамі сарваць ліст трыпутніка. (А хлопцы ўжо падпільноўвалі, каб напалохаць дзевак.) З тымі лістамі ў роце беглі дадому, і ўжо ні з кім нельга было гаварыць, каб не перашкодзіць варажбе. І ў тую ноч сасніцца жаніх. (Зап. У. А. Васілевіч у Капыльскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 88, спр. 239-а, сш. 2, л. 10 адв. — 11*

Варажылі на Купалу так. На перакрыжаванні рвалі трыпутнік, прыгаворваючы:

Трыпутнік, трыпутнік,
Ты стаіш пры дарозе,
Бачыш старога і малога,
Мо бачыў майго мілога?

Ішлі дадому не азіраючыся, клалі трыпутнік пад падушку, і ў сне павінен быў прысніцца жаніх. (Зап. у Капыльскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 88, спр. 239-а, сш. 6, л, 5*

Ля дарогі знайсці трыпутнік, замеціць адзін нейкі ліст. У поўнач вырваць, кажучы тры разы без аддышкі:

Трыпутнік, трыпутнік,
Ты сядзіш пры дарозе,
Ты відзіш старога, малога,
Ці відзіш майго мілога?

Гэты ліст прынесці дамоў, палажыць пад падушку. Прысніцца мілы. (Зап. у Смаргонскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 248*

Дзяўчаты... з крыжовых дарогаў бяруць пясок, кладуць сабе пад падушку і чакаюць адпаведнага сну, які быццам падкажаць ім іхны будучы лёс.

*БГ, 1943, № 50*

# УЛЕТКУ І ЎВОСЕНЬ

Калі зязюля кувае ля дома, то гэта значыць, што яна прадказвае якое-небудзь няшчасце. Па ліку яе кукаванняў варожаць, хто колькі год пражыве ці калі дзяўчына выйдзе замуж. Хто пачуе голас зязюлі нашча — той увесь год будзе галодны; а хто мае пры сабе грошы на той час — той будзе мець грошы цэлы год.

*Шпилевский, 1854, № 6, с. 67*

Зязюлю ўбіваць вельмі грашно, бо яна, кукуючы, варожыць справядлівей за цыганку: цыганка, штоб нешта выманіць, то набрэша табе толькі самага добрага, а зязюля праўду рэжа ў вочы.

Зязюля старым людзям варожыць, каторы калі памрэ, а дзяўчатам — калі каторая пойдзе замуж.

Як зязюля, першы раз кукнуўшы колькісьці разоў да па́ры, замоўкне, то дзеўка, каторая слухала етае песні, скора выйдзе замуж, а як жа не да па́ры, то яшчэ пасядзіць дома. Калі, кукуючы, заікнецца, то дзеўкі будуць сватаць, да ніхто не возьме.

Выказваючы розныя пажаданні, лічаць: калі зязюля закукуе да па́ры і замоўкне, то споўніцца жаданне, а калі не да па́ры — то не.

*Pietkiewicz, s. 58—59*

Дзяўчына садзіць божую кароўку на далонь і назірае: у які бок яна паляціць — адтуль прыйдуць да яе сёлета сваты.

*Pietkiewicz, s. 43*

Хто хоча даведацца пра сябе, ці памрэ ў гэтым годзе, у час, калі жыта цвіце, зрывае колас, атрасае яго ад цвету і затыкае ў валасы (жанчына) ці ў шапку (мужчына). Калі колас зноў зацвіце — добры знак, калі не — благі.

*Wisła, 4, s. 443*

Каб даведацца, ці збудзецца задуманае, для гэтага трэба ў час цвіцення хлеба вырваць з яго колас з цветам, цвет расцерці, а колас уваткнуць сабе ў валасы і чакаць, ці не зацвіце ён зноў. Калі зацвіце, то задуманае абавязкова збудзецца.

Яшчэ практыкуюць для гэтай мэты наступнае: утыркаюць дзе-небудзь у двары, у склепе, у сцяне ці ў вокнах дома наготкі. Калі гэтыя кветкі распусцяцца на новым месцы, то задуманае збудзецца.

*Шейн, III, с. 298*

Калі дзяўчына ці хлопец знойдуць у жыце падвойны колас, варожаць сабе змену становішча на працягу року.

*Wisła, 3, s. 273*

Зажынаюць першы сноп і ставяць пасярод поля. У каторую старану сноп паваліцца —туды дзеўка замуж выйдзе. (Зап. Г. Ч. Мартуль і Н. У. Астроўка ў Глускім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 92, спр. 261*

Апошні нажаты сноп доўгі час не звязваецца, таму што па ім удзельніцы жніва варожаць: падбягаюць з бакоў і хапаюць кожная сабе па жмені аўса, а потым і глядзяць, у каго аказалася аўса болей — тая і выйдзе замуж за багатага жаніха. Задаволіўшы сваю цікаўнасць адносна выхаду замуж, дзяўчаты складваюць расхоплены імі авёс на ранейшае месца і звязваюць у сноп.

*Добровольский. Словарь, с. 31*

У Вяліскім павеце існуе такі звычай: пры самым сканчэнні жніва спяваецца зажыначная песня і пакідаецца невялікі кавалак нязжатага збожжа; ён павінен быць абавязкова круглым, велічынёй ушыркі і ўдоўжкі каля аршына; завецца ён «барадой». Усе жнеі, паклаўшы сярпы, садзяцца каля «барады», а адна з іх, пераважна дзяўчына, дажынаіць «бараду». Перад пачаткам дажынання яна загадвае якую-небудзь загадку, напрыклад, калі будзе парны лік «пясцей» (жменяў) — выйдзе замуж, ■ не будзе — не выйдзе. Кожныя тры «пясці» кладуцца асобна. «Барада» зжынаецца не ўся — крыху пакідаецца. Пакінутая жнеямі «барада» завязваецца вузлом, над вузел у зямлю кладзецца кавалак хлеба, каб на наступны год лепей урадзілася збожжа, і сярпом гэты вузел убіваецца ў ніву пры словах: «Ніўка, ніўка, падай маю сілку!»

*Шлюбскі, I, с. 141*

З вясёлымі песнямі лапінку выпалваюць і кладуць у «бараду» хлеб са словамі: «Дарую табе, ніўка, хлебам з

соллю, а ты нас сыццю сыці і спорам, і добрым здароўем!..» Пасля гэтага ядуць прынесеную яечню, дзяўчаты варожаць, заглядваючы пад снапы, хто там акажацца: калі касматыя чарвякі — пойдуць замуж за багатага, калі «маленькая кузурачка» —за беднага, а калі «мізгор» (павук) — за ўдаўца.

*Пщелко, № 240*

Калі, закончыўшы жніво, дзяўчаты збіраюцца ісці з поля, яны бяруць у рукі некалькі сярпоў за канцы і кідаюць за сябе. Чый серп упадзе бліжэй — гэта знак, што тая першая ўвосень замуж пойдзе, чый далей — тая апошняя.

*Gloger, 1876, s. 378*

Увосень звычайна дзеўкі варожаць пра хуткае замужжа па знойдзеным «спарышы» ці на двух зрошчаных між сабою арэхах.

*Federowski, s. 312*

На Пакровы дзяўчаты варожаць наступным чынам. Лісце кідаюць з хвартуха па ветру з прыполу, куды лісце паляціць — туды і дзяўчына замуж пойдзе (Брэсцкі р–н). (Зап. ад пісьменніцы Клаўдзіі Каліны).

На Пакроў... дзяўчаты варожаць пра замужжа — пякуць салоныя блінчыкі, якія перад сном з'ядаюць з просьбаю, каб суджаны іх напаіў.

*НШ, 1943, № 20*

На свята Пакровы каля паўдня разломваюць некалькі ці некалькі дзесяткаў «дубовых яблык» і лічаць, у кольkіх з іх знаходзяцца мухі, а ў колькіх чарвячкі. Калі мух будзе болей — гэта значыць, што зіма чакаецца марозная, а снегу мала; калі ж пераважаюць чарвячкі, то зіма акажацца лагодная і вельмі снежная.

*Moszyński, s. 148*

На Маладзечаншчыне «на Багародзіцу» (Увядзенне) варажылі, наламаўшы вішнёвых галінак і паставіўшы іх у бутэльку з вадою за абраз. Перад багатай куццёю, напярэдадні старога Новага года, на 14 студзеня глядзелі: калі галінка расцвітала зусім — гэта быў добры знак, калі ж засыхала — наадварот. Гэтак варажылі не толькі

на замужжа, але наогул на будучы лёс чалавека. (Зап. Н. В. Хлебус).

## НА АНДРЭЯ

На Андрэя дзеўкі не прадуць, не ткуць, каб хутчэй выйці замуж.

*Сержпутоўскі, с. 108*

30 лістапада — Андрэй Первазванны — дзявочае свята. Дзяўчаты варожаць у гэты дзень такім чынам: бяруць напарстак мукі, напарстак вады і кладуць крыху солі; з гэтай сумесі пякуць маленькі піражок, кладуць яго ў шапку і падсоўваюць пад падушку. Можа здарыцца, што прысніцца жаніх.

*Пщелко, № 165, с. 3*

Бяруць напарстак мукі, столькі ж вады і солі, з гэтага пякуць тры галушкі, якім надаюць імёны трох знаёмых мужчын. Затым тыя галушкі складаюць на парозе і клічуць ката або сабаку. З чыім імем галушка будзе наперад з'едзена, той і стане мужам.

Пасцяцца цэлы дзень, а перад ноччу з'ядаюць нявымачаны селядзец. Хто ў сне падасць вады — будзе мужам.

Ставяць пад ложкам міску з вадою і з пакладзенай на яе дошчачкай. Сасніцца будучы муж, які ідзе па кладцы.

*Wisła, 3, s. 274*

Дзяўчына пячэ два хлябцы, ці «лапуны», з двух напарсткаў мукі і строга посціцца цэлы дзень. Перад сном яна, голая, аббягае вакол дома тры разы, трымаючы ў левай руцэ спечаныя ляпёшкі, а ў правай — льняное насенне, якое пакрысе рассыпае са словамі: «Андрэю! Я лён сею, патурбуйся сказаць, з кім буду сабіраць!» Лежачы ў пасцелі без кашулі, дзяўчына качае па целу ляпёшкі, з якіх адну з'ядае, а другую кладзе пад падушку: уночы абавязкова сасніць суджанага.

*Никифоровский, с. 53*

Кладучыся спаць, дзеўкі рассейваюць на сваёй пасцелі загадзя прыгатаваную жменю льнянога ці канаплянага насення; пры гэтым дзяўчына гаворыць наступныя словы: «На табе, святы Андрэю, лён сею; дай Божа знаці,

з кім буду гора гараваці!» Цяпер яны засынаюць у поўнай упэўненасці, што ім у гэту ноч абавязкова з'явіцца ў сне іх суджаны.

*Крачковский, с. 8—9*

Напярэдадні гэтага дня дзяўчаты варожаць пра суджанага, яны тройчы перад сном абсяваюць сваю пасцель канаплямі, прыгаворваючы:

Святы Андрэю,
Канапельку сею.
Дай мне знаць,
З кім буду век каратаць!

*Слупский, с. 20*

На 5-м дні пасля Юр'я, у дзень Андрэя, дзеўкі посцяць цэлы дзень да заходу сонца і ўстрымліваюцца ад размоў. Вечарам сеюць каноплі і лён на палонцы ці калодзезі, прыгаворваючы: «Дай Божа знаць, з кім век каратаць», — і пасля таго чакаюць, хто прысніцца.

*Берман. Календарь, с. 32*

Нават калі б і снег ляжаў, кожная дзяўчына засявае ў агародзе трохі льну і канапель; калі вясною рана і хораша вырасце, то ў шлюбе будзе шчаслівая, калі не, то наадварот; калі зусім не ўзыдзе, то смерць ёй пагражае.

*Jeleńska, s. 519*

На св. Андрэя дзяўчаты сеюць каноплі, пры гэтым кажуць: «Святы Андрэй, я каноплі сею, дай мне знаць, з кім буду рваць». Уночы прысніцца будучы муж.

*Szukiewicz, 4, s. 114*

Акрамя каляднай варажбы, існуе яна ў дзень св. Андрэя (30 лістапада). У час заходу сонца дзяўчына становіцца пасярод гумна і, трымаючы над галавою жменю льнянога насення, гаворыць: «Андрэю, Андрэю! На цябе лён сею!» (тройчы). Пасля вяртання ў хату яна кладзе пад падушку насенне: суджаны прысніцца ў тую ж ноч. З той жа мэтаю пад падушку кладзецца мужчынскі грабянец ці такі, які ў дзень св. Андрэя ўжываўся выключна мужчынам і не быў у жаночых руках.

*Никифоровский, с. 53*

На Андрэя дзеўкі стараюцца ціхенька ўзяць што-небудзь мужчынскае, як то шапку, порткі, люльку або

рукавіцы, і кладуць сабе пад голаў. Ноччу не хібіць прысніцца суджаны.

*Сержпутоўскі, с. 108*

На свята св. Андрэя, узяўшы нейкую частку мужчынскага адзення, мераюць ім дзверы спальні, а затым, павярнуўшыся на печы ў адзін і другі бок па тры разы, кладуць яго пад падушку, каб прысніўся суджаны кавалер.

*Wisła, 3, s. 275*

На святога Андрэя (30. XI) вечарам, як толькі зайдзе сонейка, дзеўкі бяруць па жмені канаплянага семя, абходзяць тройчы кругом калодзезя, раскідаюць зярняты, прымаўляючы: «Святы Андрэю, на цябе канапелькі сею». Потым дзяўчаты ціхенька, нічога не гаворачы, варочаюцца дахаты ці ў клець і лажацца спаць, пасыпаўшы трохі канапель сабе пад голаў. Тагды ім прысніцца суджаны.

*Сержпутоўскі, с. 107*

Бяруць жменю канапель і, ідучы па вуліцы, сеюць яе за сабою, кажучы: «Андрэй, Андрэй, я на цябе пашчу, я канапелькі сею, скажы мне праўду, з кім я буду на шлюбе стаяць». Хто ўночы прысніцца, той стане ў будучым мужам.

*Jeleńska, s. 519*

Сею канапелькі
Для святога Андрэйкі.
Дай Божа знаць,
З кім у пары стаць.
Дай Божа сасніць,
З кім у пары быць. (Зап. у
Смаргонскім р–не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 248*

На Андрэя дзеўка посціць шчырым постам увесь дзень, а вечарам, як зайдзе сонейка, бярэ вядро да й бяжыць па ваду. Кала калодзезя яна чапляе вядро на крук і кажа: «Святы Андрэй, дай мне вознаць, з кім я буду жытку гараваць» — і, выцягнуўшы вядро, п'е ваду. Каго яна пасля таго першага ўбачыць, то па ём судзіць, хто будзе суджаны. Калі хлопец, то й сама пойдзе замуж за хлопца, а калі ўдавец, то за ўдаўца, а калі жанчына, то хтось адаб'е жаніха.

*Сержпутоўскі, с. 107—108*

Гэта на Андрэя каноплі сеялі: «Святы Андрэй, каноплі пасей». Сыпнуць у акно да слухаюць, што там у хаце скажуць. Як скажуць «сядзь», то замуж не выйдзе, будзе дома сядзець.

*ТС, с. 214*

Да берагоў вялікай місы з вадой прылепліваюць паперы з мужчынскімі імёнамі так, каб канцы паперкі былі відаць пад вадою. Затым пускаюць на ваду ў місе запаленую свечку, прымацаваную да дошчачкі: з чыім іменем паперка спаліцца ад свечкі — такое імя будзе мець будучы муж.

Падслухоўваюць, пра што гавораць у другім доме. Калі пачуюць словы сцвярджальныя, як, напрыклад, «так», «канечне», «ужо», «ідзе» і да т. п., то гэта добрае прадказанне для той, што падслухоўвае; калі ж адваротныя, напрыклад, «не», «нікóлі», «позна» і г. д., — благое.

Пускаюць на ваду ў талерцы дзве іголкі так асцярожна, каб не патанулі, пры гэтым задумваюць на якога хлопца ці дзяўчыну. Калі іголкі сыдуцца, гэта ўказвае на тое, што пáра з'яднаецца.

*Wisła, 3, s. 274—275*

На трох талерках кладуць: пярсцёнак, кветку і ружанец пад прыкрыццем. Затым прыходзяць дзяўчаты па чарзе і гадаюць: якая выцягне пярсцёнак — выйдзе замуж, кветку — застанецца ў дзеўках, ружанец — пойдзе ў манастыр.

Збіраюцца дзяўчаты, кожная здымае з адной нагі чаравік, і па чарзе мераюць ад якога-небудзь месца ў пакоі да парога, кожная сваім чаравікам. У якой чаравік наском выйдзе за парог — тая выйдзе замуж.

Дзяўчына распранутая выбягае перад хатаю, дзе складзеныя дровы, і хапае такое бярэмя, якое можа ўхапіць. Калі схопіць паленцаў да пáры — выйдзе замуж.

*Wisła, 3, s. 275*

У дзежку збіраюць па аднаму чаравіку і, закрыўшы, трасуць дзежку раўнамерна зверху ўніз, пакуль не выпадзе з яе нечы чаравік, што з'яўляецца добрым знакам для яго ўладальніцы.

*Wisła, 3, s. 275*

На св. Андрэя дзяўчаты сыплюць кожная асобна кучкі зерня і клічуць курэй. Да чыёй кучкі першы прыбяжыць певень, тая выйдзе замуж на працягу года.

*Szukiewicz, 4, s. 114*

Пішуць на паперках мужчынскія імёны і кладуць іх пад падушку. Назаўтра наўгад выбіраюць адну. Выпісанае на ёй імя будзе мець будучы муж.

Некалькі дзяўчат пякуць, кожная асобна, па булачцы, затым выкладываюць іх радком на парозе і клічуць сабаку. Чыю булачку сабака схопіць напярод, тая выйдзе замуж.

Льюць воск на ваду і па ценю, кінутым такім злепкам на сцяну, варожаць пра будучае.

Трэба ў самую поўнач пайсці па ваду да студні, і ўбачыцца ў ёй постаць будучага мужа.

*Wisła, 3, s. 274*

«У нас заўсёды ўвечары перад Андрэем выліваюць дзсўкі воск ці волава на воду, і калі выльецца вянок, то замуж тая пойдзе, а калі крыж, то ўмрэ».

*Federowski, s. 312*

# ЛЮБОЎНЫЯ ЧАРЫ

## ПРЫВАРОТ (ПРЫСУШКА)

Суравой ніткаю, працягнутай з дапамогаю іголкі праз дзвюх жаб, дакрануцца намечанай асобы.

*Wereńko, s. 116*

Жадаючы выклікаць узаемнае каханне, трэба, карыстаючыся момантам, калі дзяўчына з хлопцам знаходзяцца побач, прываблівай ніткай, працягнутай у іголку, сшыць маладых праз іх адзежу. Дзейсным сродкам таксама павінна быць апярэзванне абодвух маладых людзей ваўняным паскам (акрайкаю) ці трохразовы абыход вакол тых, якія стаяць побач.

Для ўзмацнення ўзаемных пачуццяў раюць закаханым часта з'ядаць хлебныя акрайкі.

*Pietkiewicz, s. 225—226*

Трохі саломы ці сена, што павісла на кустах пры дарозе, засушыць, сцерці ў парашок і з чым-небудзь даць з'есці.

У дзень свята, якое бывае раз у год, памыцца перад усходам сонца і крышачку той вады даць выпіць.

Дзяўчына павінна, спёкшы пшаняную булачку, абкружыць ёю ў паветры тройчы вакол уласнай пяты, кажучы за кожным разам: «Не пірагом, а (Іванам)!», пасля чаго яна павінна з'есці булачку.

Дзьмухнуць неўпрыкмет тры разы над дадзенай асобаю і затым уцягнуць таксама 3 разы паветра, ім выдыхнутае.

*Wereńko, s. 116*

Каб прываражыць хлопца, трэба гарбузікі памакаць у замоўленай вадзе і даць яму выпіць. (Зап. В. Амельяновіч у Глускім р–не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 92, спр. 261*

Каб быць любімаю хлопцамі, дзяўчына мыецца гарэлкаю, у якой была замучана пчаліная матка. Тады як пчолы да сваёй маткі, так і хлопцы будуць хінуцца да яе.

*Шейн, III, с. 484*

Калі хочаш, каб па табе сумаваў хто–небудзь, вазьмі горстку зямлі з–пад яго слядоў і кінь у паветра.

*Суеверия, с. 100*

Трэба пакласці пад паху яблык і пайсці выслухаць набажэнства; тое самае зрабіць на другі і на трэці дзень, беручы той самы яблык, а затым даць яго з'есці асобе, якую кахаеш.

*Wisła, 3, s. 273*

Насіць пастаянна галаву «каршуна» на жываце, і ўсе будуць любіць.

Патаемна абнесці вакол намечанай асобы шчопаць солі — гэта адзін з пэўных сродкаў абуджэння пачуццяў (адсюль пра вельмі закаханага ці закаханую гавораць: «Чы не соллю яна яго абнясла?»).

Дабаўляюць патаемна ў гарэлку ці ў страву крыху вады пасля змытага поту пад пахамі, ці пасля мыцця звалянай кашулі падчас месячных выдзяленняў, ці таксама даюць з'есці трохі валасоў, астрыжаных пад пахаю, альбо яблык ці абаранак, нейкі час патрыманыя пад пахаю.

Падаюць патаемна выпіць адвар з трох бярозавых лісткоў ад трох бяроз, што выраслі ў адным мурашніку.

*Wereńko, s. 116*

Трэба здабыць уласнага поту і даць у страве і пітве прыблізна кропель дзесяць той асобе, з якой хочаш уступіць у шлюб: ніякая ўпартасць не ўстоіць, калі толькі пот здабыты ад цела цнатлівага чалавека.

«На любкі» трэба даць у страве ці пітве той лісток, які ў лазні застаўся на спіне між лапатак пасля таго, як чалавек «абздаўся». Для гэтага лісток з веніка сціраюць у парашок.

*Никифоровский, с. 50*

Калі дзяўчына хоча, каб за ёю хлопцы ўпадалі, у час куцці бярэ скарынку хлеба з таго месца, дзе на бохане выціснуты крыж, і кідае яго сабакам.

*Szukiewicz, 4, s. 114*

Чараўніца можа прываражыць хлопцаў да любой дзяўчыны: для гэтага яна дае дзяўчыне нейкую костачку кажана і загадвае той калоць ёю хлопца ў тое месца, дзе сэрца; пасля чаго нібыта хлопец не адстане ад гэтай дзяўчыны.

*Шпилевский, 1854, № 6, с. 62*

Можна дастаць кручок, якім здабываецца каханне любой асобы, закранутай тым за адзежыну, і вілачкі, якія маюць адваротнае дзеянне. Для гэтага трэба ўлавіць кажана, апоўначы занесці яго жывога закапаць у мурашнік і пайсці адтуль, не азіраючыся, як мага хутчэй, інакш, пачуўшы крык мышы, абавязкова аглухнеш на цэлае жыццё, а азірнуўшыся раз, вечна будзеш глядзець тварам назад. Адыходзіць трэба як мага хутчэй, не звяртаючы ўвагі ні на крык, ні на рогат, ні на якія спакусы чарцей, якія ў гэты час праследуюць чалавека. Назаўтра заместа мышы ў мурашніку застануцца толькі дзве костачкі — кручок, які завецца сярод простых людзей «любістаю», і вілачкі.

*Дембовецкий, с. 499*

Ёсць некалькі прываротных сродкаў, «любізнікаў»... але самым дзейсным з іх лічацца дзве костачкі кажана — вілкі і кручок. Здабываць іх рэкамендуюць такім чынам: трэба пасадзіць кажана ў новы гаршчок, завязаць яго новым кавалкам палатна і закапаць ноччу ў мурашніку. Вяртаючыся дамоў, нельга азірацца назад і трэба заткнуць вушы, каб не чуць піску кажана. Праз тры тыдні трэба вынуць гаршчок з мурашніка. Мурашкі

з'ядуць усяго кажана, пакінуць толькі дзве чароўныя костачкі: кручок і вілкі. Каб прываражыць каго-небудзь, варта толькі неўпрыкмет пацягнуць да сябе таго чалавека кручком: будзе так хіліцца, што не адвяжашся без дапамогі вілак; а надакучыла — варта толькі адштурхнуць яго вілкамі, і ўвесь любоўны шал як рукой здыме.

*Богданович, с. 171*

Каб мець шчасце ў каханні, у часе нерасту жаб, знайшоўшы іх дзвюх разам, закопваюць на ноч у мурашнік. Назаўтра застануцца ад іх толькі костачкі, сярод якіх знаходзяцца дзве падобныя на граблі і вілкі. Жадаючы ў каго-небудзь выклікаць узаемнасць, цягнуць яго злёгку за адзенне граблямі, а жадаючы каго-небудзь адвадзіць — адпіхваюць яго вілкамі.

*Szukiewicz, 4, s. 114*

Хто хоча заваяваць чыё-небудзь сэрца, а іншае адваражыць, няхай здабудзе кручкі і вілкі з таго дрэва, на якім салавей спявае. Павінен пры гэтым зрэзаць галінкі так спрытна, каб не напалохаць птушынага спеву. Жадаючы дабіцца ўзаемнасці, дастаткова асобу, у якую закаханы, пацягнуць неўпрыкмет кручком да сябе; калі ж жадаеш кагосьці ад сябе адвадзіць, трэба яго вілкамі адпіхнуць.

*Wisła, 3, s. 273*

Ад жывога крата трэба адарваць лапку і гэтай лапкай пачвэркаць таго, каго любіш. (Зап. у Смаргонскім р-не).

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 90, спр. 248*

## ЧАРЫ НА РАЗЛУКУ (АДСУШКА)

Калі хочаш раз'яднаць закаханую пару, хлопца з дзяўчынай, трэба кінуць туды, дзе яны разам сядзяць, тры шарсцінкі з канца правага сабачага вуха, калі там знойдзецца крышачку доўгай шэрсці, калі ж яе няма, — з пучка, які ля пачатку вуха. Тыя шарсцінкі абавязкова разлучаць закаханых. Гэта будзе чортава справа, які рады сеяць злое на свеце, па выкліку чалавека прыйдзе яму на дапамогу. За гэтыя паслугі ён возьме тыя тры кінутыя шарсцінкі: нягледзячы на самыя пільныя пошукі, ніхто іх ніколі не знаходзіў, пасля таго як кінуў. Тыя шарсцінкі з'яўляюцца сведчаннем доўгу, прынесенага чалавекам, які пасля смерці мусіць

іх выкупіць, выканаўшы тры работы, якія яму загадае нячысты.

*Kibort, s. 391—392*

Жадаючы пашкодзіць якому-небудзь шлюбу, досыць пакласці перад коньмі тых, што едуць пад вянец, дзевяць струкоў гароху, у якіх знаходзіцца па дзевяць зярнят. Коні, нягледзячы на ўсе намаганні кучара, не крануцца з месца.

*Jeleńska, s. 500*

Вядомы былі выпадкі шкоды маладым праз дзяўчыну і яе крэўных, калі яна была ўведзена тым маладым і пакінута. Цягалі, напрыклад, чорнага ката па дарозе, па якой маладая пара мелася ехаць да шлюбу. Акрамя таго, загаворвалі жытнёвае зерне, закручвалі яго ў анучкі і вешалі цішком на дзвярах маладога. Дастаткова было таксама ўкінуць маладым у воз струк гароху з няпарнай колькасцю зярнят, каб ім пашкодзіць. Шкодзіць камусьці можна таксама было іншым спосабам, напрыклад, пераступіць кагосьці ляжачага на зямлі — часцей пасучы коні... Дзеці часта палохаліся пераступання і прасілі, каб іх «адкрочылі» назад, што павінна было нейтралізаваць «шкоду».

*Sielicki, s. 215—216*

Калі жадаюць разладзіць шчасце маладых, то разбіваюць удрузг гаршчок перад вясельным поездам, калі ён вяртаецца пасля вянчання маладых.

*Богданович, с. 171*

Каб маладых не зачаравалі, калі яны будуць ехаць пад вянец, то, як толькі яны выязджалі з двара, ля варот клалі салому, запальвалі яе, і маладажоны пераязджалі праз гэты агонь.

*Минько, с. 52*

[Чары на адносіны мужа і жонкі]. Трэба ўзяць з таго воза, на якім ехалі маладыя пад вянец, шворан і загваздку (яна павінна быць абавязкова жалезная) і перакінуць іх праз дах таго дома, у якім знаходзіцца шлюбнае ложа, калі маладыя палягуць спаць. Пры гэтым трэба сказаць: «Як воз без шворна і загваздкі не паедзе, так няхай малады да маладое не пойдзе». Шворан звычайна зноў засаджваюць у воз, загваздка спальваецца ў кузні ў

горне на дробны парашок. Калі прарабіць такую штуку, то не толькі малады не пойдзе да маладой, але і «адрабіць» ніхто не будзе ў стане. Насуперак гэтаму раяць узяць сцізорык і перанесці яго ўпоперак над маладымі, калі яны лягуць у шлюбную пасцель, нібыта штосьці разразаючы над імі, а потым пайсці ад іх. У момант выхаду з пакоя трэба нож трымаць вастрыём уперад, самое ж вастрыё затым адламіць і кінуць у кузні ў горне, каб яно там перагарэла на дробны парашок. Пры выкананні ўсяго сказанага ніякія чары не могуць мець сілы.

*Демидович, с. 123*

Каб ніхто не сурочыў і не «зачараваў», маладая бярэ з сабою галоўку цыбулі ці часнаку і носіць увесь час на вяселлі.

*АС, с. 145*

Ідучы на банкет або ў свадзьбу, каб хто не ачараваў, трэба ўлажыць кашулю навыварат або хоць панчохі.

Кінутыя на дарозе рэчы (у прыватнасці, адзенне, садавіна) нельга падымаць, бо могуць быць зачараваныя.

На плячах, каб чары не дзейнічалі, лепш насіць штосьці металічнае, хоць бы... гузік які.

У Ваўкавыскім павеце лічыцца, што найлепш засцерагае ад чараў часнок, некалькі зубкоў якога, загорнутых у анучку, звычайна носяць запазухаю.

*Federowski, s. 293*

Жадаючы разлучыць каханых, трэба мець свіны памёт, сабраны ў перыяд між Калядамі і Вадохрышчам і высушаны. Спаткаўшы пару ў час размовы, трэба шчопаць гэтага парашку сыпануць наводмаш.

*Szukiewicz, 4, s. 115*

Жадаючы забыць каханага, трэба выправіцца ў Вялікі чацвер на ўсходзе сонца на рэчку і, стоячы над вадою, тройчы сказаць: «Куды гэта вада, туды мае мыслі!», сплёўваючы за кожным разам на ваду.

*Wereńko, s. 116—117*

На вяселлі ці ў часе іншай якой забавы дзяўчаты, жадаючы ўберагчыся ад назойлівасці хлопцаў, уторкваюць у падол іголку са зламаным вушкам.

*Szukiewicz, 4, s. 115*

Свечку зламаць на некага — гэта страшная помста на свайго ворага. Безумоўна, што гэты забабон перанесены з дахрысціянскіх часоў у хрысціянскі ўклад жыцця ды пратрываў да нашых часоў. Гэткі спосаб помсты ўжывалі дзяўчаты, пакінутыя і дзецьмі сваімі каханкамі. Гэта дзяўчына падбірала вялікае свята, ішла ў царкву, купляла свечку, паліла яе, ламала ды кідала пад ногі.

*Забабоны, с. 14*

## ЛЮБОЎНЫЯ ЗЁЛКІ

Каб выклікаць каханне ў хлопца, дзяўчына зрывае траву «зімку», носіць яе пры сабе тры дні, потым разам з тытунём скручвае яе ў папяросу. Калі яе хлопец выкурыць, то насмерць закахаецца. Дастаткова дзяўчыне папяросу насіць на грудзях тры дні, а на чацвёрты даць хлопцу выкурыць, каб закахаўся так, што і на аддаленні не забываўся пра яе.

*Kibort, s. 392*

Зелле «загардушка» (расіца). Загардушкі найбольш растуць у белым моху, яны зусім падобныя да макрыцы, гэтай, што чырвона цвіце, таксама дробныя цветачкі, а раса на іх заўсёды, нат у палудзень, у горач, то і то трымаецца... Няхай анно хлопец дзеўцы чы дзеўка хлопцу дасць іх крыху ў страве або ў адзежу зашые, то той сухотаў у любасці дастане... Адзін парабак... аддаў сястрэ цяперашняга старшыні... то яна як яго любіла, што сохла, сохла да і ўмярла. После на яе магіле страх што загардушак вырасла, хоць яны ў таком месцы ніколі не растуць; то людзі прыходзілі і дзівам дзівіліся.

*Federowski, s. 169*

Каб хлопцы любілі дзяўчыну, апошняй трэба было памыцца цветам з дрэў на першы дзень Вялікадня перад усходам сонца; затым састаў гэты занесці ў адной кашулі і закапаць пад хлеў дома таго хлопца, каханне якога пажадана набыць.

*Запольский, с. 66*

Гарнік — трава-прыварацень, якая горне, паводле павер'яў сялян, да кахання: «Адтапі гарніку ў малацэ і дай мужыку свайму выпіць, дак і будзе цябе любіць».

*Носович, с. 55*

Верацъ, што расцвітае папараць у гэту (купальскую) ноч, і каму ўдасца сарваць гэту кветку, таго ўсе жаданні збудуцца. Збіраюць знахарскія травы, асабліва хто знаецца з нячыстым. Ёсць, напрыклад, такая трава «любжа»; корань яе выглядае як дзве рукі з растапыранымі пальцамі. Але бывае так, што гэтыя пальцы «сашчэпнуты» накшталт таго, як часам складваюць на малітве. Гэта і ёсць прываротнае зелле. Калі даць каму гэтага кораня, дык той, хто з'есць, палюбіць вас да смерці... Гэтыя самыя карэнні ў выглядзе растапыранных пальцаў лічацца адваротным зеллем.

*Косич, с. 16—17*

Каб адамсціцца дзеўцы, якая не любіць маладзіка, то трэба яе падкурыць дурцом, дурнап'янам, то яна будзе бегаць, скінуўшы сарочку, як вар'ятка, па вуліцы.

*Federowski, s. 333*

Роля зёлак у любоўных справах заключаецца не толькі ў тым, каб піць адвары з іх, але і ў тым, каб ужываць іх іншымі спосабамі, як, напрыклад, узаемнае кіданне за сябе, закладанне за каўнер, у кішэню і куды ўдасца...

*Pietkiewicz, s. 225*

## РОЗНАЯ ВАРАЖБА Ў ЛЮБЫ ЧАС

Хто варожыць на картах — робіць цяжкі грэх. Варажбіткі ідуць прама ў пекла, неба для іх раз назаўсёды замкнута.

*Federowski, s. 254*

Калі на маладзік убачыш першы раз месяц з правага боку, то распачаты месяц будзе для цябе шчаслівы; калі з левага — нешчаслівы.

*Wisła, 3, s. 273*

Нявеста, пабачыўшы маладзік, спыняецца і гаворыць:

Маладзік малады,
У цябе рог залаты.
Ты па свету ходзіш,
Няўжо ты майго мілага не бачыш.
Найдзі ж ты яго,

Прывядзі ж ты яго,
З кім мне век векаваць,
Штоб мне таго ўва сне павідаць.
(Зап. у Смаргонскім р-не).

Як нараджаецца месяц, дзеўка, убачыўшы яго ў першы раз, дак з-пад пяты з-пад правай возьміць зямлі і гаворыць:

Маладзік малады,
Твой рог залаты!
Сасніся мне той,
Хто будзець мой.

І ўвяжаць гэту зямлю ў рукаў ці ў хустку, і кагды спаць кладзецца, паложыць яе пад падушку.

*Шейн. БНП, с. 452*

Калі ўбачыш у першы раз маладзік, то трэба спусціць рукаў на руку і гэтак перахрысціцца, каб грошы вадзіліся. Дзеўкі ж варожаць на маладзік. Калі яны яго ўбачаць першы раз, то бяруць з-пад правай нагі зямлі ці што там здарыцца, кладуць пад падушку, і што прысніцца, тое збудзецца (Віцебскі п.).

*Шейн, III, с. 352*

Калі дзеўка хоча ведаць, за каго пойдзе замуж, то як угледзіць першы раз маладога месяца, то трэба ўкленчыць, згаварыць тры «Здровась, Марыя», узяць з-пад правага калена жменю зямлі ці пяску, ператалварыць праз ногу і, прынёсшы дахаты, падсыпаць пад голаў, то прысніцца той, за каторага замуж пойдзе.

*Federowski, s. 256*

Калі дзяўчына ў час першай квадры ўбачыць першы раз месяц, яна павінна, не сыходзячы з таго месца, прачытаць 7 малітваў і ўжо гэты вечар не адгукацца ні на якія звароты, ні пры якіх умовах. Калі тры разы гэтак зробіць, то сасніць будучага мужа.

*Wisła, 3, s. 274*

Убачыўшы першы раз маладзік, дзяўчына становіцца на адну правую нагу, пераварочваецца на пятцы той жа нагі тройчы і столькі ж разоў чытае «пацеры». Затым з утворанай пад пятою ямкі яна бярэ тры «нюшкі» зямлі, якую і кладзе пад падушку: «ва снях» сасніцца той «маладзік», за якога дзяўчына выйдзе замуж. Калі дзяўчына

ўбачыць «маладзіка» толькі ў бялізне — ён бядняк, з палкай у руцэ — злосны і задзірысты, мокрым — п'яніца, цёпла апранутым — багач і інш.

*Никифоровский, с. 54*

Прыняўшы прапанову, бацькі нявесты, перш чым сказаць рашучае слова сватам ці жаніху, робяць наступнае выпрабаванне. У першае печыва пякуцца два невялікія хлябы, велічынёю ў курынае яйка, і адразу з печы кідаюцца ў цэбар з чыстаю вадою. Калі вада супакоіцца і хлябы сыдуцца на сярэдзіне цэнтра, — што спрыяльна для сямейнай пары, — бацькі загадваюць дачцы з'есці абодва хлябы і на сватанне адказваюць згодай. У адваротным выпадку, г. зн. калі хлябы не сплывуцца, бацькі ці зусім адмаўляюць (тады хлябы аддаюцца сабаку), ці даюць неахвотную згоду.

Тыя ж бацькі робяць іншае выпрабаванне. У сенцах ставяць дзве зачыненыя пасудзіны: адну — з хлебным зернем, а другую — з пяском. Пасля кароткай малітвы яны садзяцца за стол і загадваюць дачцы прынесці адну з пасудзін, зразумела, не кажучы пра тое, што ў ёй насыпана. Калі дачка прынесла пасудзіну з зернем, то сямейнае жыццё яе будзе «ў сыцце»; у адваротным жа выпадку — у патрэбе і беднасці.

*Никифоровский, с. 56*

За тыдзень перад вяселлем нявеста напаўняе дзве місы: адну — хлебным зернем, а другую — вадой і падносіць да іх сваю любімую курыцу. Калі курыца стане спачатку кляваць зерне, то будучы муж будзе працавітым гаспадаром, піць ваду — п'яніцаю, а значыць — бедным чалавекам.

*Никифоровский, с. 56*

Каб даведацца пра характар жаніха ці нявесты, бяруць іх волас і праводзяць між сціснутымі пазногцямі. Калі волас скруціцца, значыць, характар злы і «кручаны», калі ж застанецца роўны — характар роўны, спакойны.

*Романов, 8, с. 306*

У Барысаўскім павеце (Докшыцы Мінскай губ.) захоўваецца яшчэ такі звычай. Бацькі, якія жадаюць аддаць свайго сына ў вучылішча, вараць асобы гаршчок кашы; зварыўшы, выносяць яго на двор і ставяць на

калодзе; той, хто рыхтуецца да вучылішча, бярэ палку і б'е па гаршку: калі пырскі ляцяць далёка, гэта лічыцца добрай прыкметай — у будучым вучню можна спадзявацца на досціп, добрую памяць і ахвоту да вучэння; у адваротным выпадку можна чакаць супрацьлеглых якасцей.

*Крачковский, с. 166*

У час рэкруцкага набору малады мужчына, што стаіць на чарзе, спяшаецца зрабіць наступнае: з верхняй скарынкі першага вынутага з печы хлеба вырэзвае крыж і, пакуль ён не астыў, кідае ў ваду, прыгатаваную для адмочвання спечанага хлеба. Калі крыж адразу патануў у вадзе, то той, які варожыць, пойдзе ў салдаты.

*Никифоровский, с. 87*

Калі ад здадзенага ў салдаты сына доўга няма вестак, маці адразае чатыры лусткі ад першага навагодняга хлеба і кладзе іх на ноч у чатырох кутках хаты. Калі ўсе лусткі акажуцца некранутыя да раніцы — сын цэлы і здаровы; калі злёгку пагрызеныя — хворы і няшчасны; зусім з'едзеныя — сын забіты на вайне ці памёр ад хваробы. Пры гэтым згрызеная лустка паказвае прыблізна месца знаходжання сына, ад якога няма вестак.

*Никифоровский, с. 87—88*

Пры пачатку цяжкай хваробы пэўнай асобы адзін з блізкіх яму хатніх у тры тэрміны зрывае па дзевяць лісткоў барвінка і, чытаючы «Здровась, Мар'я», кладзе іх у бутэльку з гарэлкаю, якую закопвае ў зямлю ля ганка. Калі пасля дзевяці дзён лісткі барвінка ўсплывуць на паверхню бутэлькі і захоўваюць зялёны выгляд, хворы папpавіцца, прычым настоеную гарэлку члены сям'і распіваюць разам з хворым. Калі тыя ж лісткі паблякнуць і асабліва ападуць на дно бутэлькі, хворы памрэ, а гарэлка распіваецца хатнімі ўжо пасля смерці.

*Никифоровский, с. 279*

У час змяркання пад вечар цяжкахвораму даюць у рукі лустку хлеба, якую потым хто-небудзь з родных адносіць на «ростынькі». Калі пакладзены хлеб застанецца цэлы да ўсходу сонца, хворы яшчэ можа паправіцца, у адваротным выпадку ён абавязкова памрэ.

*Никифоровский, с. 279*

Калі хворы доўга не папраўляецца і родным карціць даведацца, памрэ ён ці не, то вядзьмар раіць зрабіць так: самы блізкі хворага павінен, сядаючы вячэраць, узяць невялікі кавалак хлеба і, адкусіўшы адзін раз, трымаць яго ў моцна сціснутым кулаку левай рукі ўсю вячэру, а потым пайсці на раздарожжа і прылегчы да зямлі: калі пачуецца плач — хворы памрэ, а калі вясёлы спеў — хворы паправіцца.

*Добровольский. Данные, с. 368—369*

# ВЫКАРЫСТАНАЯ ЛІТАРАТУРА І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

АС — Археологический сборник Виленской Археологической комиссии. Вильно, 1867. Т. 3.

БГ — Беларуская газэта. 1943.

Берман — Берман Иоанн. Календарь по народным преданиям в Воложинском приходе Виленской губернии Ошмянского уезда // Зап. имп. рус. географ. о-ва по отд-нию этнографии. СПб., 1873. Т. 5.

Богданович — Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этнографический очерк. Гродно, 1895.

Булгаковский — Булгаковский Д. Пинчуки // Зап. имп. рус. географ. о-ва по отд-нию этнографии. СПб., 1890. Т. 13.

Дембовецкий — Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии. Могилев-на-Днепре, 1882. Кн. 1.

Демидович — Демидович П. П. Из области верований и сказаний белорусов // Этнограф. обозрение. М., 1896. Кн. 28.

Добровольский. Данные — Добровольский В. Н. Данные для народного календаря Смоленской губернии в связи с народными верованиями // Живая старина. СПб., 1898. Вып. 3—4.

Добровольский. Словарь — Добровольский В. Н. Смоленский областной словарь. Смоленск, 1914.

Забабоны — Забабоны: Запісаў Адам Варлыга на Лагойшчыне // Выданьне «Заранка». New York, 1972.

Запольский — Запольский М. Чародейство в Северо-Западном крае // Этнограф. обозрение. М., 1890. Кн. 2.

Киркор — Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию // Этнограф. сб., издаваемый имп. рус. географ. обществом. СПб., 1858. Вып. 3.

Корева — Корева А. Материалы для географии и статистики России: Виленская губерния. СПб., 1861.

Косич — Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни // Живая старина. СПб., 1901. Вып. 2, 3—4.

Крачковский — Крачковский Ю. Быт западнорусского селянина. М., 1874.

Минько — Минько Л. И. Суеверия и приметы. Мн., 1975.

**Мухлинский** — Мухлинский А. Праздники, забавы, предрассудки и суеверные обряды простого народа в Новогрудском повете Литовско-Гродненской губернии // Вестник Европы. М., 1830. № 14—16.

**Неверович** — Неверович В. О праздниках, поверьях и обычаях у крестьян белорусского племени, населяющих Смоленскую губернию // Памятная книжка Смоленской губернии на 1859 год. Смоленск, 1859.

**Никифоровский** — Никифоровский Н. Я. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи... Витебск, 1897.

**Носович** — Носович И. И. Белорусские песни // Зап. имп. рус. географ. о-ва по отд-нию этнографии. СПб., 1873. Т. 5.

**О.Б-ский** — О.Б-ский. Суеверные обряды простонародья Западного края // Русский мир. 1874. № 7.

**Пщелко** — Пщелко А. Деревенские праздники // Витеб. губерн. ведомости. 1904. № 161, 165.

**Романов** — Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вильна, 1912. Вып. 8.

**Сержпутоўскі** — Сержпутоўскі А. К. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930.

**Слупский** — Слупский А. И. Народный календарь // Альманах Северо-Западного календаря на 1892 г. Мн., 1892.

**Соболевский** — Соболевский Д. Белорусы и Белоруссия // Чырвоны шлях. 1918. № 9—10.

**Суеверия** — Суеверия и предрассудки в Могилевской губернии // Могилев. губерн. ведомости. 1849. № 6—8.

**Толстая** — Толстая С. М. Полесский народный календарь // Славянское и балканское языкознание. М., 1984.

**ТС** — Тураўскі слоўнік. Мн., 1982. Т. 2.

**Фалютыньский** — Фалютыньский К. Народные праздники, увеселения, поверья и суеверные обряды жителей Белоруссии // Вестник Европы. М., 1828.

**Шейн, I** — Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1887. Т. 1. Ч. 1.

**Шейн, III** — Шейн П. В. Материалы... СПб., 1902. Т. 3.

**Шейн, БНП** — Шейн П. В. Белорусские народные песни. СПб., 1874.

**Шлюбскі** — Шлюбскі А. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Мн., 1927. Ч. 1.

**Шпилевский** — Шпилевский П. М. Белоруссия в характеристических описаниях и фантастических ее сказках // Пантеон. СПб., 1853, № 3; 1854, № 6.

**Эгилевский** — Эгилевский. Белорусские поверья // Маяк. 1844. Т. 16, кн. 32.

**Federowski** — Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. Kraków, 1897. T. 1.

Gloger — Gloger Z. Zabobony rolnicze // Biblioteka Warszawska. 1876. T. 2.
Jeleńska — Jeleńska E. Wieś Komarowicze w powiecie Mozyrskim // Wisła. 1891. T. 5.
Kibort — Kibort J. Wierzenia ludowe w okolicach Krzywicz w pow. Wilejskim // Wisła. 1899. T. 13.
Moszyński — Moszyński K. Polesie wschodnie. Warszawa, 1928.
Pietkiewicz — Pietkiewicz Cz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego: Materjały etnograficzne. Warszawa, 1938.
Sielicki — Sielicki F. Wierzenia na dawnej Wilejszczyźnie // Slavia orientalis. 1986. T. 35, № 2.
Szukiewicz — Szukiewicz W. Niektóre wierzenia, przesądy i zabobony ludu naszego, legendy i podania // Kwartalnik litewski. 1910. T. 4.
Wereńko — Wereńko F. Przyczynek do lecznictwa ludowego // Materyały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne. Kraków, 1896. T. 1.
Wisła — Szukiewicz W. Wierzenia i praktyki ludowe // Wisła. 1903. T. 17, zesz. 3, 4.

## ЗМЕСТ

Популярное издание

**ДАЙ БОЖЕ ЗНАТЬ,**
**С КЕМ ВЕК ВЕКОВАТЬ:**
**БЕЛОРУССКАЯ НАРОДНАЯ ВОРОЖБА**

Составитель
**Василевич Владимир Александрович**

Минск, издательство «Навука і тэхніка»
На белорусском языке

Папулярнае выданне

# ДАЙ БОЖА ЗНАЦЬ, З КіМ ВЕК ВЕКАВАЦЬ:
## БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ВАРАЖБА

Складальнік
**Васілевіч Уладзімір Аляксандравіч**

Загадчык рэдакцыі Л. І. Пятрова
Рэдактар М. А. Вячорка
Мастак І. В. Процька
Мастацкі рэдактар Л. М. Гоманаў
Тэхнічны рэдактар Л. А. Карнеева
Карэктар Я. У. Марціновіч

Здадзена ў набор 11.05.93. Падпісана ў друк 12.07.93. Фармат $84 \times 108^{1}/32$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 3,36. Ум. фабр. -адб. 3,68. Ул.-выд. арк. 2,94. Тыраж 20040 экз. Зак. № 578. Цана 90р.
Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук Беларусі і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220141. Мінск. Жодзінская, 18. ЛВ № 437. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220141. Мінск. Жодзінская, 18.

